
Місаед у Крынках→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Нашыя ў Варшаве→9

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 07 (2962) Год LVIII | Беласток, 17 люты 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Размова з войтам Чыжоўскай гміны Юрыем Васілюком, які ўжо 10 гадоў кіруе працай мясцовага самаўрада.


фота Аляксея МАРОЗА

# Двухмоўныя дошкі нашым козырам

— Восенню 2002 года Вы былі абраны войтам Чыжоўскай гміны ад Беларуска-народнага выбарчага камітэта, апярэдзіўшы дырэктара Падставовай школы ў Кленіках Яна Лабузінскага, кандыдата ад правячага тады ў Польшчы СЛД.

— Я першы ў гміне стаў часта спатыкацца па вёсках з людзьмі, а пры гэтым у розных умовах. Было нават, што ў 5 гадзін раніцы размаўляў з сялянамі на скупцы малака і вёў дыскусіі з людзьмі непасрэдна на вуліцы. Усё гэта спрацавала і я са сваёй праграмай, у якой многа месца адведзена перабудове дарог, дайшоў да жыхароў гміны. Дапамагаў мне мой цесць, родам з Чыжоў, а я і сам не прыйшоў звонку, бо выводжуся з Курашава і ведаю многіх выбаршчыкаў.

— На зломе 2002 і 2003 гадоў Вы яшчэ не ведалі, што будуць еўрасаюзныя сродкі на гмінныя інвестыцыі. Вам, войту Чыжоўскай гміны, удалося здабыць многа вонкавых сродкаў на гмінныя праекты, перш за ўсё з еўрасаюзнага бюджэту. Якія вялікія інвестыцыі ўдалося Вам зрэалізаваць на працягу 10 гадоў кіравання гмінным самаўрадам, зразумела, з дафінансаваннем з гміннага бюджэту?

— Як на адносна невялікія фінансавыя магчымасці нашай гміны ўдалося нам здабыць многа еўрасаюзных сродкаў. На працягу 10 гадоў рэалізавалі мы ажно 21 праект з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў і грошай з дзяржаўнага бюджэту. Інвеставалі мы ў розныя сектары нашага жыцця, у перабудову і мадэрнізацыю дарог, гаспадарку адходамі і паляпшэнне санітарных умоў у гміне, рэалізавалі інвестыцыі ў публічных будоўлях, у асветнай і культурнай сферах, а таксама ў галіне сацыяльнай дапамогі і выканалі розныя меншыя інвестыцыі. Нашыя жыхары патрабавалі перш за ўсё мадэрнізаваць і рамантаваць дарогі і на гэтых інвестыцыях мы сканцэнтраваліся. За 10 гадоў на тэрыторыі нашай гміны мы перабудавалі ажно 33 кіламетры павятовых і гмінных дарог, якія былі прыкрыты асфальтнай і бітумічнай паверхнямі. За мадэрнізацыю павятовых дарог, якая адбывалася з прыцягненнем павятовых, гмінных і вонкавых сродкаў, мы дзякуем Павятоваму старостве ў Гайнаўцы. Выканалі мы таксама ачышчальню сцёкаў у Чыжах і каналізацыйныя сеткі ў Чыжах і Збучы, расходваючы на гэта 4 мільёны 400 тысяч зл. (у іх ліку многа было вонкавых еўрасаюзных сродкаў). З вялікім удзелам вонкавых сродкаў мы адрамантавалі многа вясковых святліц, школьны будынак і пабудавалі каля школы спартыўную пляцоўку «Орлік».

— Чыжоўская гміна вядомая ў Падляшскім ваяводстве культурнымі мерапрыемствамі, у час якіх прэзентуюцца перш за ўсё беларуская культура і нашыя традыцыі. Вы былі ініцыятарам Археалагічнага фэсту на гарадзішчы побач Збуча, «Купалля» каля Лянева і беларускіх фэстаў, між іншым у супрацоўніцтве з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Мы рашыліся паказваць нашае культурнае багацце і адкліацца да нашых традыцый і гісторыі. Калі стала даследавацца старадаўняе гарадзішча каля Збуча, мы рашыліся паказаць нашую доўгую і багатую гісторыю пры дапамозе Археалагічнага фэсту на гарадзішчы. Калі знайшлі прыгожае месца побач вадаёма каля Лянева, сталі ладзіць там беларускае мерапрыемства «Купалле». Беларускія фэсты па нашых вёсках сталі мы ладзіць, між іншым, у супрацоўніцтве з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы, які арганізуе мерапрыемствы з цыкла «І тут жывуць людзі». Мы хочам, каб нашыя песні маглі паслухаць жыхары і выхадцы з вёсак, якія ахвотна прыязджаюць на радзіму на нашыя фэсты.

— Па Вашай ініцыятыве радныя прынялі пастанову аб уздзенні беларускай мовы ў якасці дапаможнай для зносін жыхароў гміны з мясцовымі чыноўнікамі. Гаварылі Вы, што хочаце правесці дыскусію з насельніцтвам наконт устанаўлення ў гміне дошак з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах.

— Нядаўна праводзілі мы сходы, у час якіх абмяркоўвалі з жыхарамі гміны розныя пытанні. Я рашыўся выкарыстаць сходы для азнаямлення людзей з прапановай устанавіць у нашай гміне дошкі з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах і ў час дыскусіі адказаць на пытанні і высветліць усе недаўменні. Мы разам з дырэктарам Гміннага асяродка культуры Юркам Якімюком тлумачылі сабраным, што двухмоўныя дошкі будуць нашым козырам, а сродкі на ўстаноўку дошак атрымаем звонку і не будзем расходаваць на гэтую ініцыятыву ніякіх нашых гмінных грошай, што з'яўляецца таксама важным фактарам для нашага грамадства. У 17 салэцтвах мы правялі галасаванне ў справе двухмоўных дошак і амаль усе прысутныя на сходах прагаласавалі за іх устанаўленне. Толькі 3 асобы былі супраць гэтай прапанове і некалькі чалавек стрымаліся ад галасавання.

— Аказваецца, прапановы атрымала вялікую падтрымку мясцовага грамадства. Калі тады пачнеце разглядаць праект пастановы аб размяшчэнні дошак на польскай і беларускай мовах?

— Нам найважнейшы голас грамадства. Вельмі вялікая падтрымка з боку насельніцтва дае нам падставу да далейшых крокаў. Я прадбачваю, што яшчэ ў першым квартале гэтага года запрапаную Радзе гміны праект пастановы аб устанаўленні ў нашай гміне дошак з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах.

— У час перапісу насельніцтва ў 2002 годзе каля 82% жыхароў Чыжоўскай гміны назвала сябе беларусамі і гэта быў найбольшы адсотак беларусаў сярод іншых гмін у Польшчы. У Комплексе школ у Чыжах усе вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы. Дадатковая субвенцыя для мясцовай школы дапамагае павышаць узровень навучання. Сродкі з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі на развіццё беларускай нацыянальнай меншасці дапамагаюць ладзіць культурныя мерапрыемствы ў гміне. Ці ў мясцовага насельніцтва ёсць свядомасць, што быць беларусам гэта не толькі гонар, але і магчымасць атрымліваць рэальныя сродкі на дзейнасць у гміне?

— У час сходаў я пераканаўся, што свядомасць нашых жыхароў у справе магчымасцей атрымлівання сродкаў на дзейнасць нашай беларускай меншасці ёсць невялікая. Частка людзей нават несвядомая, што з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі можна атрымаць сродкі на беларускія культурныя мерапрыемствы. Многія не ведаюць, што дадатковая асветная субвенцыя, якая выдзяляецца нам дзякуючы таму, што ўсе вучні нашай школы вучацца па-беларуску, дазваляе зэканоміць рэальныя сродкі ў бюджэце гміны, якія мусілі б мы выдзеліць на дафінансаванне дзейнасці школы. Гэтыя грошы можам прызначыць на інвестыцыі ў гміне.

— Вы запланавалі перабудаваць у гэтым годзе галоўную дарогу ў Чыжах, але ведаю, што паявіліся складанасці.

Мы супольна з павятовымі ўладамі запланавалі перабудову дарогі ў Чыжах, а наш праект атрымаў станоўчую ацэнку і апынуўся на асноўным спіску, які гарантаваў дафінансаванне інвестыцыі памерам у 30% у рамках «Нацыянальнай праграмы перабудовы лакальных дарог». Аднак аказалася, што дафінансаванне гэтых праектаў павялічылася з 30% на 50% і дабралі да разгляду новыя праекты. Іх аўтары ведалі аб большым дафінансаванні і маглі ўжо пад яго канструяваць прапановы. Мы не маглі перарабляць свайго праекта і пасля ацэнкі дабраных праектаў нашая прапанова апынулася на рэзервовым спіску. Зараз мы можам атрымаць сродкі на наш праект толькі ў такім выпадку, калі іншыя праекты акажуцца таннейшымі, чым былі запланаваныя. Тады зэканомленыя сродкі можна будзе прызначыць на праекты з рэзервовага спіска. Аднак, калі нават не атрымаем вонкавага дафінансавання, плануем распачаць перабудову дарогі, выканаць папярэчныя мосцікі і зрабіць уезды на школьную пляцоўку, а пры дарозе побач школы выканаць стаянку для машын.

— Якія ў Вас інвестыцыйныя планы ў бліжэйшым часе?

— У гэтым годзе прадбачваем разам з Павятовым староствам перабудаваць павятовыя дарогі Падрэчаны — Лянева, Кленікі — Сапава — Мякішы і Курашава — Новы Корнін. Прадбачваем таксама перабудаваць гмінныя даязныя дарогі ў кленіцкі хутар Бурыцкае і ў курашаўскі хутар Буякоўшчына. Хочам перабудаваць дарогу ў Ляневе, будзем мадэрнізаваць гравійныя дарогі. Прадугледжваем таксама паставіць новую кацельню ў школьным будынку ў Чыжах, збудаваць гульнявую пляцоўку для дзетак каля школы ў рамках праекта «Радасная школа» і мадэрнізаваць плошчу каля святліцы ў Збучы. Будуць таксама сродкі на ўтылізацыю 120 кубаметраў шыферу. Прадбачваем аснасціць нашыя пажарныя каманды новым абсталяваннем і адрамантаваць пажарныя дэпо ў Чыжах і Кленіках. Плануем таксама ўстанавіць новыя дарожныя знакі на даязных дарогах да хутароў.

— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.

Гутарыў Аляксей МАРОЗ





# Комплекс правінцыялкі

Жывем мы ў Беларусі ў перавернутым, перакручаным грамадстве. Грамадстве, у якім страчаны амаль усе арыенціры, грамадстве, дзе многае перакрулена з ног на галаву. У нашым дзіўным каралеўстве крывых люстэркаў усё робіцца для ўзмацнення гэтай татальнай фантасмагорыі, да давядзення гэтага абсурду да абсалюту. У шматтысячнай гісторыі чалавецтва было шмат паняволеных народаў і заваяваных краін, многія з іх даўно зніклі з аблічча зямлі, альбо перарадзіліся ў іншыя. Але, думаецца, пляменаў манкуртаў, якое паказаў у сваім літаратурным творы кыргызскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў, у рэальнасці было не так шмат. Адным з такіх з'яўляюцца сучасныя беларусы — народ, які жыве нібыта ў сваёй — паводле назвы — дзяржаве, а між тым — нібыта як на чужой зямлі, народ са сваёй багатай гісторыяй, але які жыве чужым розумам і чужынскімі парадкамі. Зразумела, што больш чым за дзвесце гадоў панавання тут усходняга суседа не маглі прайсці бясследна. Акрамя таго мяняліся этнічныя межы, паліліся беларускія кнігі, руйнавалася наша архітэктура, вынішчаліся фізічна і людзі — ваяры, інтэлігенцыя, цвет нацыі. Тым, каго пакідалі жывым, прапаганда прышчапляла трывалы комплекс правінцыйнасці. Беларусь мусіла быць то „северо-западным краем", то „партызанскай рэспублікай", то ўрэшце нібыта самастойнай дзяржавай, але ў якой „нічога няма" — прыродных рэсурсаў, людскіх талентаў, сваёй паўнавартаснай мовы і культуры. Вось і не можа стаць дзікая абрэвіятура РБ — Рэспублікай Беларусь.

На дзяржаўным тэлебачанні хлопцы і дзеўкі, спрэс з беларускімі прозвішчамі, якія лічаць сябе мясцовымі „зоркамі" (але з нязменнай жыццёвай марай патрапіць у вялікія Пецярбург ці Маскву, дзе сапраўдная сталіца), нібыта спаборнічаюць паміж сабой у тым, хто больш прынізіць і абразіць дзяржаўную беларускую мову. Асабліва гэта выяўляецца ў забаўляльных перадачах. Асабіста я стараюся іх не глядзець, але часам трапляю на такія сюжэты, ці іншыя расказваюць. Правінцыяльны комплекс не дазваляе гэтым напышлівым, фанабэрыстым маладзёнам зразумець, што абражаюць яны найперш сябе. Ім здаецца, што спасцігі „вышэйшую культуру", але ўсе іх „творчыя знаходкі" глядзяцца да пачварнасці агідна. Дзяржава свядома дыскрымінуе беларускую мову. Тых жа спартовых каментатараў, якія памкнуліся перайсці на родную мову, хутка зацугялі і вярнулі ў расейскамоўнае „стойла".

Ды што там дзяржаўныя медыі. Вось адчыняю адзін рэгіянальны незалежны сайт з безаблічнай пустой назвай і чытаю ў адным з блогаў здольнай некалі журналісткі такі ўступ: „Я живу в небольшом провинциальном городке...". А горад гэты мае багацейшую гісторыю і культуру і нават сёння ўражвае сваёй велічнай архітэктурай. Дык адкуль у нашых людзей такі комплекс непаўнацэннасці, такое імкненне да самапрыніжэння?! У партнёрах гэтага незалежнага інтэрнэтнага рэсурсу — спрэс вядомыя і аўтарытэтныя беларускія арганізацыі і ініцыятывы, іх банеры пададзены знізу, але аформлены сайт выключна па-расейску, матэрыялы таксама амаль усе на чужой мове. Адмыслова не называю ні рэсурс, ні горад, ні прозвішчаў — бо з'ява ўжо досыць тыповая для беларускай незалежнай інтэрнэтпрасторы. Дастаткова з'ездзіць у сталіцу Мінск і прайсціся па дэмакратычных офісах вядомых арганізацый — уражанне атрымаеце досыць сумнае — у большыні з іх працоўная і побытавая мова — расейская. Нібыта ў Самару ці Волагду трапіў... І вось тут становіцца сумна па-сапраўднаму. Бо чым тады прынцыпы і светагляд нашых незалежных арганізацый розняцца ад паставаў і палітыкі дзяржаўных структур, якія мы крытыкуем? Паглядзіце блогі ў інтэрнэце вядомых айчынных журналістаў — большыня з іх будзе выключна па-расейску, бо дзе ж ты на беларускай мове выкажаш штосьці вялікае, як выславіўся адзін вядомы правадыр!? Тут усялякія іншыя прыдумкі дэкларуюцца — кшталту „пашырыць інфармацыйную прастору", „давесці глыбокія думкі да як мага большай часткі грамадства" і таму падобнае. А Беларусь з-за такога нацыянальнага нігілізму так і застаецца правінцыялкай, якая саромеецца свайго.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дзякуючы дабрызным людзям



Адкуль мой сябра, польскі беларус, кінуў паскудную звычку нікатынізму, находзяць на яго чорныя думкі. Як памятаю, калі ён курыў, таксама меў чорнадумства, ды, усё ж, дальбог, не аж такое! Сапраўды, ёсць штосьці ў цыгарэтах пякельнае! Возьмем тыя смалістыя рэчывы. Цяпер ужо выкашліваюцца яны з мозгу майго сябра разам з таксінамі грамадскай турботы. Вось прыглядваючыся таму, што адбываецца ў нашай краіне, абмяркоўвае ён сапраўды чартоўскае пытанне: ці ў Беларусі, калі не стане Лукашэнкі, запануе палітычная распярдуха, якую маем у Польшчы? І ўжо ад дваццаці гадоў! Вядома, з чартоўскім — nomen omen — хвосіцкам апошніх гадоў польска-польскай вайны. Паводле яго прадбачванняў, можа наступіць супермегараспярдуха! Няхай толькі тамашняя апазіцыя дарвецца да ўлады. Польска-польская вайна гэта ледзь чартоўская забаўка малалецтва. Сваю спелую, люцыпарычную постаць адслоніць толькі ў Беларусі. І ў гэтым месцы дазволю сабе не пагадзіцца з сябрам. Факты, хаця смярдзяць серай і кіпучай смалой, не дазваляюць мне, аднак, меркаваць інакш.

Ад дзесяцігоддзяў палітыкай у Беларусі займаліся ўлады адчужаныя ад народа. Калі не савецкія, то постсавецкія — быццам бы дэмакратычныя, ды загубленыя ў хаосе дамараслага капіталізму. Не адзін грамадзянін, прывыклы да дзяржаўнага апякунства, з-за гэтага палпаціўся голадам і прыгнечанасцю нявызначанага заўтрашняга дня. Шчасце ў няшчасці, адну і другую ўладу чэрці далі і ўзялі. На канец прыйшоў Лукашэнка з абяцаннем няўмешвацца ў бульбяныя агародчыкі і прыхатнія хляўчукі, якія для ягоных землякоў *i krew, i blizna, i Ojczyzna.* Таму мой сябра можа спаць спакойна. Да палітычнай распярдухі ў Беларусі не дойдзе, пакуль Лукашэнка, як *бацька* прыхатніх агародчыкаў і хляўчукоў, не закончыць доўгага жыцця на прэзідэнцкім крэсле.

Не без прычыны пра Беларусь гавораць, што гэта скансэн СССР. Ды не таму, што аднавіў яго Лукашэнка. А таму, што сумленная большасць беларусаў прагне жыць у скансэне. Недурная гэта задума. Такі скансэн збудавалі пад Беластокам. Ён электрыфікаваны, падчэплены да каналізацыі, а гасцей чакае мноства атракцыёнаў, такіх як збіванне масла ў маслабойцы. Можна таксама там з'есці гамбургер і напіцца кока-колы. Толькі што за ўсё трэба салона заплаціць. Калі каму не стае грошай, можа ўволю наглядзецца праз плот, як прыгожа жывецца ў скансэне. Аж да 9-й вечара. Бо пасля выключаюць святло.

Беларуская апазіцыя, перасвараная паміж сабою і раздробленая на манную кашку палітычных праектаў, якія распісваюць адзіночныя і якія ж самотныя апаненты Лукашэнкі, не здабыла даверу сваіх землякоў. Паводле апошняга апытання незалежнага даследчыцкага цэнтра НІСЭПІ, траціна беларусаў, кіруючыся мабыць халоднай калькуляцыяй, падтрмылівае Аляксандра Лукашэнку. Затое гарачая падтрымка для найпапулярных апазіцыянераў — Андрэя Саннікава і Уладзіміра Някляева — дэкларуе ледзь пяціпрацэнтная група адказчыкаў. З гэтых даных вынікае, што апазіцыянеры для большасці беларусаў гэта неўдалоты, якія са свайго асабістага капрызу зрабілі цноту донкіхоцкай мроі аб свабодзе. Толькі што мроя гэта не кілбаса, якую з-за бяды можна даць сябе парэзаць на скрылёчкі. Беларусы навучыліся сачыць за ўласным носам. І гэта філасофія, як ні глядзець, дабрызная. Яе рысай з'яўляецца крайні натуралізм аж да апартунізму, альтруізм, які зачыняецца ў закутках ўласнага двара, ды недахоп суседскай салідарнасці. У маёй вёсцы магу штодзень назіраць за такім кніжным прыкладам дабрызнага чалавека, няхуткага да бунту і насілля, які папраўдзе нікому шкоды не зробіць, але і не дапаможа. Пакуль атрымлівае пенсію па хваробе, пакуль зможа дайсці ўласнымі сіламі ў прыбіральню, маецца добра. А колькі падобных дабрызных людзей жыве ў Беларусі — ані гарачых, ані халодных? Дастаткова, каб мой сябра спаў спакойна. І Аляксандр Лукашэнка — а як жа ж! — таксама. Дзякуючы дабрызным людзям.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Сустрэча ў ваяводы



У адпаведнасці з перадумовамі, галоўная частка сёлетняй наваогдняй сустрэчы (4 лютага) падляшскага ваяводы Мацея Жыўны з прадстаўнікамі нацыянальных і этнічных меншасцей рэгіёна была прысвечана пераходу на Падляшшы з сігнала цяперашняга аналагавага тэлевяшчання на лічбавы сігнал; канчаткова стане гэта 17 чэрвеня, а толькі ў Ломжы і шасці ломжынскіх гмінах — 23 ліпеня. У размовах за закрытымі для СМІ дзвярыма прыняў удзел віцэ-міністр адміністрацыі і лічбавізацыі Уладзімеж Карпінскі. Але была і размова аб іншых праблемах. Прысутныя на сустрэчы наракалі на адсутнасць падляшскага маршалка. Тамаш Суліма з Музея малой айчыны ў Студзіводах сказаў журналістам у перапынку спаткання: „На жаль, вялікім непрыстуным з'яўляецца тут маршалак ваяводства. Шмат хто з прадстаўнікоў арганізацый нацыянальных меншасцей выказваў шкадаванне адносна несправядлівага размеркавання сёлетніх грошай на арганізаваныя імі мерапрыемствы з пулькі якраз самаўрадавага ваяводства".

Дадаў:

— Краналіся таксама сістэмныя праблемы, напрыклад, датычныя дэмаграфічных пытанняў. З Беласточчыны па прычыне недахопу працы і слабой інфраструктуры з'язджае шмат маладых людзей, у тым ліку значная частка моладзі, якая выводзіцца з беларускай меншасці.

Віцэ-міністр Карпінскі, распытваны мною ў час пазнейшай прэс-канферэнцыі, абяцаў, што „гэтую праблему прыме блізка да сэрца":

— Гэтая праблема — інтэрдысцыплінарная. Патрабуе абмеркавання розных ведамстваў. Прыглядзімся гэтай праблеме з клопатам і одумам і будзем разважаць, якая тут павінна быць кааперацыя паміж міністрамі культуры, адукацыі і адміністрацыі, але перш за ўсё з удзелам міністра экаміміі, які піша сектарныя праграмы развіцця прамысловасці. Найбольш важным пытаннем з'яўляецца тое, што маем тут рабіць, што з'яўляецца прыцягальнай сілай гэтага рэгіёна. Гэтыя змены будуць немагчымымі, калі не выраўнаваць адрознасці патэнцыялаў паміж гэтым рэгіёнам і іншымі.

Ваявода Мацей Жыўна гарантаваў са свайго боку:

— Гэтую заяву перадамо ваяводскім уладам, якія цяпер на этапе падрыхтоўкі стратэгіі развіцця Падляшскага ваяводства. Гэты элемент абязлюджвання Беласточчыны, у кантэксце таксама нацыянальных меншасцей, вельмі важны і мусіць быць уключаны ў стратэгію.

Віцэ-міністр і ваявода адказалі таксама мне на пытанне, што будзе з дасвятляльнай мачтай, без якой тэлевізійны лічбавы прыём у рашучай большасці Гайнаўскага і часткі Бельскага паветаў не будзе магчымым (з маіх інфармацый вынікае, што надалей няма адпаведнай дамовы паміж TVP і фірмай, якая займаецца падключваннем лічбавага тэлебачання; аб праблеме пісалі мы ў „Ніве" шмат месяцаў таму).

Уладзімеж Карпінскі:

— Гэта абсалютна прыярытэтная справа з пункту гледжання Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі: гэты тэхналагічны скок і магчымасць доступу да розных функцый, якія нясе з сабою лічбавае тэлебачанне. Тут гаворка не толькі пра лепшы прыём праграм, але і, напрыклад, магчымасці іх стварэння мясцовымі супольнасцямі ці згуртаваннямі, якія прадстаўляюць нацыянальныя меншасці.

Ваявода Жыўна:

— Пагроза недахопу сігналу лічбавага тэлебачання на пазначаных на картах абшарах, на якіх можа яго не быць, знойдзе развязку. Аднак, калі будуць паяўляцца інфармацыі, што дзесьці такі сігнал не прымаецца, будзем рэагаваць. Маем яшчэ паўгода, каб гэта папоўніць. Сігнал мусіць пакрываць усю плошчу Падляшскага ваяводства. Гэта ўмова поспеху лічбавага тэлебачання.

Каб толькі не было запозна.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Беларускі тэатр у модзе

## Размова з Ігарам Сігавым і Аляксандрам Гарцуевым

**„Ніва": — Ваш музычны спектакль „Адвечная песня" паводле драматычнай паэмы Янкі Купалы, якому прысвяцілі Вы нават спецыяльную таблічку-зорку, ставіцца ўжо дванаццаць гадоў. Адкуль гэты феномен?**

**Ігар Сігаў (акцёр, галоўны дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі ў Мінску):** — Справа ў тым, што ўся наша глядзельная зала можа змясціць толькі дзвесце чалавек. А што гэта для такога двухмільённага Мінска? Усё, вядома, залежыць ад якасці спектакляў. Ёсць такія, на якія прыходзіць менш зацікаўленных, ёсць і такія, на якія немагчыма здабыць білеты на шмат тыдняў да спектакля. За дваццаць гадоў існавання РТБД мы знайшлі свайго гледача, які паяўляецца на кожнай нашай прэм'еры, а нават з'яўляецца рэкламшчыкам нашых прадстаўленняў. Да гэтага даходзіць, вядома, цяжкая праца нашых адміністрацыйна-прамацыйных служб, займаючыхся іх продажам. Нейкія паўгода таму ў нас быў правал, паніжэнне ліку гледачоў, ды пасля прыходу новай асобы, адказнай за білетаабароты, зноў мы павялічылі продаж. Спалучаецца гэта таксама з тым, што з Аляксандрам Фёдаравічам (Гарцуевым — М. Х.) мы на сваіх пасадах адносна новыя (ад новага сезона — М. Х.). Прачнулася нейкае зацікаўленне сярод гледачоў, што таксама можам паказаць у гэтым дуэце.

**Аляксандр Гарцуеў (рэжысёр, мастацкі дырэктар РТБД):** — Гэта не такое простае. Гэтая праблема больш комплексная. Былі да нядаўна праблемы з тэатральнай аўдыторыяй ва ўсёй Беларусі, у тым ліку і ў РТБД. Да нашага прыходу былі ў тутэйшым рэпертуары спектаклі, на якія гледачы проста не хадзілі. Пасля нашага прыходу на пасады мы прачысцілі рэпертуар. Ад гэтага сезона ёсць новыя прэм'еры. У тэатральных колах Мінска і шырэй у Беларусі абодва мы вядомыя і было вядома, што пасля прыходу нас у дырэкцыю тэатра паявілася зацікаўленне да нас. Такі імпульс нельга адпусціць. Генеральна, у цяперашні час у Мінску з пункту гледжання наведвальнасці ў тэатры сітуацыя неблагая. Памятаю сваю маладосць у канцы сямідзесятых, пачатку васьмідзесятых. Тады тэатр быў апошнім месцам, куды хацелася зайсці. Цяпер сярод інтэлігенцыі царыць свайго роду мода на тэатр...

**Ігар Сігаў:** — А нават сярод моладзі.

**Аляксандр Гарцуеў:** — Што важнае, ёсць зацікаўленне беларускамоўнымі спектаклямі.

**— Ну вось, наколькі ў Мінску гледачы зацікаўлены спектаклямі стаўленымі па-беларуску?**

**Аляксандр Гарцуеў:** — У Мінску зацікаўленне ёсць. Я стаўлю як рэжысёр спектаклі ў розных месцах нашай краіны і бачу, што ў Гомелі ці Магілёве маецца моўная праблема. Нават у Гродне. Ставіў я ў Гродне спектакль па-беларуску, ну і... *(уздых)* Таму на правінцыі трэба было раней шмат рабіць для развіцця беларускамоўнай свядомасці. У Мінску аж такой праблемы няма, хаця гэта рашуча рускамоўны горад. Пануе тут, аднак, такая шаноўная павага для беларускай мовы ў тэатры. Можа гэта таму, што тут больш за 90 гадоў дзейнічае тэатр імя Янкі Купалы, у якім я меў гонар служыць 32 гады. Гэта заўсёды быў тэатр на высокім мастацкім узроўні. Заўсёды быў першым у сталіцы і ў краіне. Так проста прынялося: „Купала" — пабеларуску і гэта добра. У Мінску, хаця ўсё тут мяняецца і большасць насельніцтва рускамоўная, надалей пануе павага для беларускамоўнага тэатра. Нават калі штодзённа не размаўляецца на беларускай мове, трэба паважаць, прыходзіць і глядзець беларускамоўныя спектаклі. На жаль, такіх схільнасцей у іншых гарадах няма, ну, можа яшчэ ў Віцебску.

**Ігар Сігаў:** — Можа гэта мае сувязь з тым, што на правінцыі людзі баяцца, што калі прыйдуць на беларускамоўны спектакль, нічога не зразумеюць. У Мінску ў гэтым плане больш адважны падыход.

**Аляксандр Гарцуеў:** — І як бы ні глядзець, Мінск і так з'яўляецца найбольш беларускамоўным горадам у Беларусі.

**— Гэтая праблема датычыць толькі тэатра, ці таксама іншых відаў мастацтва і жыцця?**

**Аляксандр Гарцуеў:** — Мы штудзіравалі разам з калегамі ў Акадэміі мастацтваў. Традыцыйна ў нас мастакі гавораць па-беларуску. Ёсць сучасная літаратура па-беларуску. Ёсць чыста беларуская галерэя „Ў", свайго роду аазіс беларускамоўнасці, дзе нават у кавярні пры галерэі гаворыцца толькі пабеларуску. Інакш ёсць сярод звычайных людзей, але сярод пісьменнікаў, мастакоў, людзей тэатра беларушчына існуе. Так вось: існуе.

**Ігар Сігаў:** — Што цікавае, у цяперашні час моладзь штораз больш зацікаўленая тым, каб мець зносіны па-беларуску і цікавіцца беларушчынай шырэй. Таму ахвотна пачалі мы ставіць спектаклі толькі па-беларуску, хаця б таксама маладых беларускіх драматургаў на мове, на якой былі яны напісаны.


Ігар Сігаў

**Аляксандр Гарцуеў:** — Перад нашым прыходам у РТБД паявілася пытанне, на якой мове гэты тэатр будзе дзейнічаць, ці будзе абмяжоўвацца толькі да беларускамоўных пастановак. Не маем запісана ў статуце, што так мае быць. Мы, аднак, рашылі, што так будзе, хаця можа не ў кожным выпадку. Калі рэалізуем міжнародныя праекты, дык чаму ж не могуць яны быць па-англійску, папольску ці нават па-руску. Я лічу, што, напрыклад, Чэхава ці Дастаеўскага лепш іграць на мове арыгінала. Рускай мовы ў беларускім тэатры дастаткова. А беларуская ёсць толькі ў тэатры імя Янкі Купалы і ў Віцебску, а існуе каля трыццаці афіцыйных тэатраў у краіне, у тым ліку восем-дзевяць у Мінску.

**— Як гэта ёсць, што ў каталогу-даведніку па Мінску, які зараз пасля прыезду трапіў мне ў рукі, пералічаны толькі Тэатр оперы і балета, і больш няма ніякага іншага тэатра?**

**Ігар Сігаў:** — Справа ў грашах на рэкламу. Чым больш прэстыжны такі каталог-даведнік, тым даражэйшыя цэны, каб у яго трапіць. Відаць, мы не трапілі ў гэты каталог-даведнік, які вы ўбачылі, таму што для нас было задорага.

**— Наколькі Вашаму тэатру дапамагае дзяржава?**

**Аляксандр Гарцуеў:** — Дзяржава забяспечвае нашы патрэбы недзе ў якіх 80 працэнтах. Апошняе мусім забяспечыць самі.

**— І гэтага хапае?**

**Аляксандр Гарцуеў:** — Ды дзе там... У тэатры заўсёды замала грошай, колькі б іх не дастаць. Калі б былі большыя грошы, было б, прыкладна, іншае сцэнічнае афармленне. На ўзроўні, на якім запланавалі мы працу тэатра, грошай хапае. Ну, але ж калі б мы захацелі са спектаклямі паехаць у Аўстралію, напэўна нам грошай не хапіла б, але ж у Польшчу — стане.

**Ігар Сігаў:** — Збіраемся цяпер у Сербію. І вельмі старанна мусім палічыць, колькі там можам зарабіць, а колькі нам у змозе дакласці дзяржава, значыць — міністэрства культуры.

**— У Вашым тэатры функцыяне контрактная сістэма. На чым яна аснавана і ці яна спрацоўвае?**

**Ігар Сігаў:** — Як у кожнай палкі, у яе два канцы.

**Аляксандр Гарцуеў:** — Вось прыклад. Бяру на працу маладога акцёра, а ён на працягу двух-трох гадоў не апраўдвае спадзяванняў. Дык як яго звольніць? Закон мне яго звольніць от так сабе на дазваляе. Маю пільнаваць, аж ён нап'ецца ці вылаўліваць нейкія іншыя яго хібы? Гэта подласць. А так у кантрактнай сістэме ёсць прафесійна. Канчаецца яму кантракт і магу яму ў такой сітуацы падзякаваць без праблем. Затое з пункту гледжання акцёра кантрактная сістэма крышку страшнаватая. Возьмем прыклад Ігара. У яго кантракт падпісаны з міністэрствам культуры толькі на год і ўжо неўзабаве канчаецца.


Аляксандр Гарцуеў

**Ігар Сігаў:** — У прынцыпе падпісваецца ў нас кантракты з дырэктарамі на пяць гадоў, ды так не мусіць быць. Можна яго ўзяць на год-два і па магчымасці прадаўжаць на чарговыя год ці два. Са мною падпісалі толькі на год, каб прыглядзецца, ці я як акцёр спраўлюся з гэтага роду задачай. Да гэтай пары я паспеў на практыцы толькі азнаёміцца з новымі заданнямі. У сваю чаргу я падпісаў з Аляксандрам Фёдаравічам кантракт на пяць гадоў, бо ў выпадку мастацкага дырэктара кантракт на год ці два не мае сэнсу. З мастацкага пункту гледжання за такі кароткі час нічога не ўдасца зрабіць.

**— Я ўбачыў у РТБД залу-трэнажорню, балетную залу. Чуў вакальныя заняткі. Якая ў Вашым тэатры сістэма працы з акцёрам, што ён павінен умець?**

**Ігар Сігаў:** — Павінен ён умець усё *(смех)*.

**Аляксандр Гарцуеў:** — Я не думаю, каб нашы акцёры ўмелі штосьці асабліва іншае ад іншых акцёраў у Беластоку ці іншым горадзе Еўропы. Ёсць такое паняцце як расійская акцёрская школа (Аляксандр Гарцуеў з'яўляецца таксама акцёрам — М. Х.). Маю на думцы г.зв. сістэму Станіслаўскага. Думаю, што пры цэлай разнастайнасці форм сучаснага тэатра, у тым ліку розных форм, якія прымяняем у РТБД, як, напрыклад, мастацкі тэатр, у якога падстаў ляжыць якраз сістэма Станіслаўскага, значыць, жыццё чалавечага духу. Гэтую сістэму акцёр павінен ведаць і разумець. Ігра павінна быць унутраная, эмацыянальная, духоўная. Напачатку дух, а пасля цела. Паводле гэтых крытэрыяў падбіраем трупу. У гэтым нашым невялікім тэатры акцёрскі калектыў павінен быць маладым і ў прынцыпе такім ён ёсць. Мабільнасць, не толькі эмацыянальная, гэта асноўны элемент сучаснага акцёра з яго грамадзянскім пасылам.

**— Я думаю, аднак, аб тым, якія стымулы ўводзіце, каб акцёры развіваліся. Недахоп прагрэсу гэта праблема шмат якіх польскіх тэатраў, у тым ліку Драматычнага тэатра ў Беластоку.**

**Ігар Сігаў:** — Калі стаў я на пасаду дырэктара, усе залы для практыкаванняў ужо былі. Я давёў да таго, каб усё дзейнічала сістэмна. Запрасіў педагогаў якія займаюцца спевам ці танцам. Як дырэктар я маю абавязак гарантаваць акцёрам базу для развіцця, каб утрымалі фізічную і акцёрска-тэхнічную форму. Нашы акцёры разумеюць, што калі такімі ўмеласцямі не распараджаюцца, будуць іграць у меншым ліку спектакляў-загалоўкаў. Пры распараджэнні ўмеласцямі звязанымі з сістэмай Станіслаўскага, неабходна таксама вывучэнне сінтэзаваных, самых розных умеласцей. Нашы акцёры хочуць развівацца. Вернемся да пытання пра контрактную сістэму. Калі нехта з акцёраў не хоча развівавацца, дык развітваецца з нашым тэатрам. Каб выходзіць на сцэну, трэба быць да гэтага прафесійна ўпаўнаважаным кожны раз.

**Аляксандр Гарцуеў:** — Па сутнасці ваша пытанне датычыць адсутнасці цынізму ў мастакоў, акцёраў, ахвоты да сваёй працы. У сваёй масе людзі тэатра ідуць у яго працаваць, каб у гэтай працы здзейсніцца. Тут не плацяць нейкіх сур'ёзных грошай. Ужо ў акцёрскіх школах вучаць, што ідзецца працаваць у тэатр дзеля крылаў, якія вырастаюць час ад часу. Бывае, што вырастаюць. А калі хтосьці хоча зарабляць, хай стане міліцыянерам, не акцёрам. Адсутнасць цынізму сярод нашых акцёраў у гэтым сэнсе гэта заслуга школы. У РТБД, што мяне самога здзіўляе, гэта стопрацэнтная самаадданасць працы.

**Ігар Сігаў:** — Цяпер акцёр, калі падыходзіць да вывешанага акцёрскага складу чарговага спектакля, пытаецца чаму не атрымаў ролі, а не так, як калісьці, уздыхаў з палёгкай.

**— Ваш тэатр гэта не толькі спектаклі, але і іншыя дзеянні. Якія?**

**Ігар Сігаў:** — З нашым прыходам на пасады мы схацелі тут зрабіць такі культурны цэнтр. У галерэі стараемся паказваць асабліва маладых творцаў, якія не маюць магчымасці паказвацца ў іншым месцы. Пры тэатры дзейнічае Цэнтр драматургіі і рэжысуры. Працуюць тут разам драматургі і маладыя рэжысёры. Арганізоўваем мастацкія сустрэчы на камернай сцэне, майстар-класы, напрыклад, для драматургаў.

**Аляксандр Гарцуеў:** — Калі я прыйшоў у гэты тэатр, пачаў ад фармавання акцёрскага калектыву і рэпертуарнай палітыкі. Міністр культуры амаль год таму паставіў перада мною канкрэтнае заданне: зрабіць гэты тэатр у горадзе знакавым, прыцягнуць да яго, зрабіць яго модным. Раней РТБД перажываў перыяд стагнацыі, было някепска, ды не было падзей. Гэтае заданне не на адзін год, але ж да рэалізацыі. Перш за ўсё трэба накіравацца ў бок моладзі, каб прыцягнуць яе да беларускамоўнага тэатра. Бабулек у нас у тэатр не трэба прыцягваць. Разумеючы ці не, і так яны сюды прыходзяць.

— Дзякую за размову.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Славамір Смольскі — у прыклад

Жыве ў Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) чалавек, які ахвотна дапамагае сваім аднасяльчанам і ўжо перш-наперш старэйшым. Славамір Смольскі — вопытны жывёлавод. Супольна з жонкай Малгажатай гадуюць шмат малочных кароў. З іх панадворка малако возяць аўтацыстэрны Акругован малочнага кааператыва ў Гайнаўцы.

Славамір мае замілаванне да тэхнікі. Ён самародны канструктар. Зрабіў малы трактар, падчапіў да яго снегаачышчальнік, якім расчышчвае ўласны панадворак і тратуары. Змайстраваў спецыяльнае абсталяванне для даення кароў непасрэдна на пашы і абыходзіцца без электраэнергіі. Яго сядзіба — адна з прыгажэйшых у нараўчанскай ваколіцы.

Славамір услужлівы для суседзяў і знаёмых. У снежні мінулага года адзін новаляўковец купіў шмат драўніны на апал у жыхара Старога Ляўкова і трэба было перавезці дровы з аднаго двара ў другі. Славамір Смольскі не адмовіўся. Сталў марозны дзень і ў трактары замярзала нафта. Але ад чаго ў яго вопыт! Ён хутка справіўся з запускам рухавіка і перавёз дровы. А вось іншыя аднасяльчане аднекваліся: а то моў конь непадкаваны а тут галалёдзіца, а то трактар не ўдаецца завесці...

Ноччу з 14 на 15 студзеня г.г. гуляла мяцеліца. Занесла снегам вуліцу і тратуар у Новым Ляўкове. Славамір Смольскі сеў за руль свайго адмысловага самаробнага трактара і прачысціў тратуар на ўсёй даўжыні вёскі — будзе гэта 1000 метраў. Новаляўкоўцы на чале з солтысам задумалі падзякаваць спадару Слаўку на старонках „Нівы", якую і ён здаўна чытае.

Нараўка

## Запрашэнне да конкурсу

Таварыства прыяцеляў Нараўчанскай зямлі запрашае да ўдзелу ў конкурсе пад загалоўкам „Гісторыя і партрэт маёй сям'і ва ўсеагульнай гісторыі Нараўчанскай зямлі". Можа гэта быць апавяданне, рэпартаж і інтэрв'ю ды з фотаздымкамі.

Працы прымаюць да 30 ліпеня 2013 года ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы, вул. Новая, 3 „А". Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць у дырэктаркі ГАК Анны Стульгіс, таксама і па тэлефоне 85 685 80 34 у будні дні ад 10 да 18 гадзіны.

Конкурс будзе завершаны ў жніўні 2013 года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. **(яц)**

## „Беларускі тыдзень" — не раніцай, толькі вечарам

З 1 сакавіка 2013 г. на Беластоцкім тэлецэнтры зменіцца план перадач, у сувязі з чым зменіцца таксама час выхаду ў тэлеэфір праграм для нацыянальных мешасцей.

**Тэлеперадача „Беларускі тыдзень" будзе трансляваца** па нядзелях а гадз. $19^{05}$, **а паўтарацца, так як і раней,** па серадах каля гадз. $17^{30}$

■ Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# „Місаед" адкрыты нанова




Злева: Іаанна Чабан, Мікалай Байгуз, Анатоль Дарошка і Галена Пухальская.

У Крынках ужо другі раз прайшла гучная мясаедная вечарына. Сустрэча, сарганізаваная таварыствамі „Тэрра інкогніта", „Віла Сакрата" і Гмінным асяродкам культуры ў Крынках, прыцягнула ў прасторную залу натоўп людзей.

— Такія сустрэчы звяртаюць увагу на тутэйшую традыцыю. А напэўна варта яе падтрымліваць, — адзначыла дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Крынках Алжбета Чарэмха. — У мінулым годзе людзей было нямнога. Магчыма, прычынай таму было тое, што людзі яшчэ добра не ведалі што гэта за сустрэча. Сёння маем поўную залу!

Мясаед сярод беларусаў Сакольшчыны вядомы таксама як запускі ці астаткі. Розніца між запускамі і мясаедам ці астаткамі такая, што гэтыя апошнія тычацца самага апошняга тыдня перад постам. Са словам „місаед", некаторыя нават радавітыя жыхары падкрынскіх вёсак не мелі ніякіх асацыяцый.

— Ніколі чагосьці такога не было ў Крынках, — адзначыла спадарыня Галена з Крынак (родам з Гаркавіч). — Толькі як паўстаў гурт „Заранiца" штосьці такое ладзяць.

Спадарыня Галена адначасова дадае, што ў перыяд між калядамі і постам (для яе вядомы пад назвай запускі) сустракаліся на вячорках, а ўжо абавязковым было напячы пончыкаў ці хрустаў на „Валоссе".

А ўжо ў Піражках, што пад Крынкамі, мясаед з'яўляўся самым вясёлым часам.

— Мясаед гэта карнавал па-польску, — патлумачыла Лідзія Кукіш з Піражкоў. — Калісь мала хто карыстаўся назвай „карнавал", толькі заўсёды гаварылі „місаед". У маёй вёсцы забавы былі тады штотыдзень, бо свой музыкант быў, свае хлопцы былі, умелі спяваць, танцаваць. Весела было. Я ўжо была на гэтым „місаедзе" ў мінулым годзе і мне спадабалася, таму я і сёння прыйшла.

Адзначанне традыцыі мясаедных гульняў у Крынках вярнулі жанчыны з гурту „Заранiца".

— Размаўляючы з людзьмі, не цяжка было адчуць, што самым вясёлым быў перыяд ад каляд да пачатку посту, а таксама час валокання, — адзначыла Іаанна Чабан з гурту „Заранiца". — Гэта найбольш запамяталася тутэйшым і мне. Здаецца, што трэба гэта перадаць будучым пакаленням. І на гэтым я засяродзілася і вакол гэтага стараюся арганізаваць сустрэчы.

Мясаедная сустрэча была спалучана з прамоцыяй новага кампакт-дыска „Заранiцы" пад загалоўкам „Песні з аколіцы". Матэрыялы, выкарыстаныя гуртом на кружэлцы, былі падрыхтаваны Андрэем Гарбузам з таварыства „Сакольшчына".

— Удалося мяне адшукаць кніжку „Польска-беларускія песні з Сакольскага павета". Яе выдаў пад канец XIX ст. Ян Бадуэн дэ Куртэнэ — такое французскае прозвішча па продках, але ён ужо лічыў сябе палякам. Гэта вельмі незвычайны чалавек, вядомы мовазнаўца. Некалькі гадоў жыў ён на тэрыторыі сучаснай Эстоніі ў горадзе Дэрпт — сёння Тарту. Ён наняў няньку, якая пільнавала ягоных дзяцей. Аказалася, што гэтая дзяўчына ведае шмат цікавых песень, між іншым на беларускай мове. Ён іх запісаў — у кніжцы ўсяго 25 песень на польскай і беларускай мовах ды на польска-беларускай трасянцы.

XIX-вечныя песні паходзяць са шляхецкага двара Гарчакі (цяпер Шудзялаўскай гміны). Загаловак кампакт-дыска „Песні з аколіцы" можна разумець двяяка: як песні сабраныя ў ваколіцы Крынак, а таксама песні, якія былі запісаны на шляхецкім двары. Як растлумачыў Андрэй Гарбуз, шляхта не называла месца, дзе быў пабудаваны двор, вёскай (гэта абражала б яго дамачадцаў), а якраз аколіцай. Жанчынам з гурту „Заранiца" — Галене Пухальскай і Іаанне Чабан удалося нават знайсці пляменніцу нянькі дзяцей Яна Бадуэна дэ Куртэнэ. Тая аднак не адчувае ніякай сувязі з беларускай культурай.

— Яна прывыкла да польскай мовы і цяжка было для яе прыняць вестку аб нацыянальнасці продкаў, — адзначыла Іаанна Чабан. — Аднак летам, ездзячы па вёсках, мы даведаліся, што некаторыя песні з новай кружэлкі вядомыя жыхарам падкрынскіх вёсак. Але нямнога, адну, можа дзве песні людзі яшчэ помняць. І гаварылі, што яны самі не спявалі, але іх старэйшыя цёткі. Так што гэтыя песні даўно, даўно забытыя.

Пасля выступу гурту „Заранiца" свой час мелі вясковыя музыканты: Мікалай Байгуз з самаробнай скрыпкай і Анатоль Дарошка, які іграе на акардэоне. Яны падыгрывалі на шматлікіх вясковых забавах (між іншым, мясаедных) у амаль цэлым ваяводстве. Карыстаючыся нагодай, жанчыны з гурту „Заранiца" пры музыцы ўжывую паказвалі танцы, якіх навучыліся ад старэйшых заўсёднікаў вясковых забаў. Мастацкую частку мерапрыемства папоўніў вядомы беларускі гурт з Гарадка „Хутар".

— Прыпамінаецца маладосць, — сказала на канец Лідзія Кукіш, удзельніца мерапрыемства.

Некаторыя старэйшыя ўдзельнікі мерапрыемства параўноўвалі гэтую мясаедную вечарыну са сваімі, якія ім помняцца яшчэ з маладосці. Няцяжка дадумацца як выглядае такі баланс. Аднак ужо сёння яны падкрэсліваюць, што наколькі стане сілы, напэўна прыйдуць у наступным годзе на „місаед". А ўсё паказвае на тое, што гэтая імпрэза стане адным з пастаянных мерапрыемстваў у культурным календары Крынскай гміны.

# Шчодры вечар гарадоцкім людзям


Фота Іааны ЧАБАН

Беластоцка-гарадоцкія ўдзельнікі музычнага праекта

З вялікім размахам праходзіла сёлетняе калядаванне ў Гарадоцкім цэнтры культуры. Новая глядзельная зала ледзь памесціла натоўп мясцовых прыхільнікаў традыцыйнага ўжо штогадовага мерапрыемства. Пышнасці гарадоцкаму канцэрту дадавала прафесіянальнае асвятленне і гукафікацыя сцэны і, канешне, прысутнасць шматлікіх СМІ.

Мабыць, сярод публікі не было чалавека, які не змог бы знайсці тут нешта на свой музычны густ. Сапраўды, было з чаго выбіраць. У гэты вечар з гарадоцкай сцэны можна было пачуць разнастайныя музычныя жанры ў выкананні прадстаўнікоў трох пакаленняў спевакоў. Мабыць, старэйшая група мела самую вялікую па колькасці выступоўцаў рэпрэзентацыю. Надта элегантныя дамы і высакародныя спадары з гарадоцкага „Хутара”, „Расспяванага Гарадка” і „Васеньскага ліста” выдатна праслаўлялі родную, калядную традыцыю. Саромецца свайго напэўна ў галаву ім ніколі не прыходзіла і не прыйдзе. Горшая справа з гарадоцкімі дзеткамі. Вялікая, па-казачнаму апранутая, вясёлая кампанія з мясцовага самаўрадавага садка выдатна запрэзентавалася перад шматлікай публікай. Яны не толькі адважна спявалі і падскоквалі, але яшчэ і падыгрывалі на флейтах. Гарадоцкія настаўніцы падрыхтавалі ім вельмі цікавыя аранжыроўкі самых арыгінальных калядных песень. Усё было б добра, калі б не факт, што ў іх выкананні не прагучала ніводная праваслаўная ці беларуская калядка. Такі стан рэчаў быў бы ўспрымальным у Саколцы ці суседніх Крынках, але не ў Гарадку. Гледзячы на складваючуся сітуацыю можна сцвярджаць, што беларускі Гарадок хуткім крокам адыходзіць у гісторыю. Калі нічога тут не памяняецца, неўзабаве, так як і ў Крынках, будуць публічна пальцам паказваць апошніх карыстальнікаў простай мовы. Чаму на плённай Гарадоцкай зямлі не знайшліся маладыя людзі, ахвотныя працягваць аўтэнтычныя традыцыі сваіх дзядоў і прадзедаў? А гэтыя, прынамсі ў музычнай сферы, у Гарадку дзейнічаюць на ўсіх франтах. Не баяцца яны самых складаных інтэрпрэтацый і мастацкіх эксперыментаў. Доказам таму з’яўляецца паспяховае супрацоўніцтва жыццярадасных жанчын з „Расспяванага Гарадка” з авангардыстамі рок-гурту „Ilo&friends”. Гэты „інтэрдысцыплінарны” праект меў свой дэбют два гады таму. Гледзячы на водгук публікі, асабліва яе маладшых прадстаўнікоў, надалей застаецца ён захапляльнай формай сустрэчы з народнай культурай. Мабыць, гэта і ёсць спосаб на папулярызацыю і ажыўленне голасу стагоддзяў. Апрача ганаровай ролі прамотараў роднага слова і мелодый удзельнікі праекта проста добра праводзілі з сабой час. Не адзін раз падаваліся яны на супольныя канцэрты ў гарадкі Беласточчыны і па-за яе межы. Да таго, дзякуючы міністэрскай датацыі, ім удалося запісаць памятную кружэлку „Шчодры вечар добрым людзям”. Выдаўцом альбома стаў Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку. Дырэктар цэнтра Юрка Хмялеўскі прызнаўся, што хаця запісаныя творы паяўляліся ўжо ў радыёэфіры, то ўсе чакалі сапраўднага прэм’ернага канцэрта.

— Вечар, такі як сёння, стаў аптымальным для яго праявлення. Вядома, — працягвае дырэктар ГЦК, — час калядавання ўжо набліжаецца да свайго завяршэння, але мы рашылі раздаць прэм’ерную кружэлку ўсім удзельнікам і публіцы нашага сённяшняга мерапрыемства. Тыраж атрымаўся даволі вялікі, так што яшчэ праз год будзем яе раздаваць.

Да ўдзелу ў гарадоцкім калядным канцэрце былі запрошаны і сябры з іншых мясцовасцей. У іх ліку апынуліся музыканткі з крынскай „Зараніцы”, таксама жаночы калектыў „Кумы і сванькі” беластоцкай арганізацыі АБ-БА. Абодва гурты павялі слухачоў па шляху старых, аўтэнтычных калядак з падкрынскага Вострава пачынаючы, а на Бельску-Падляшскім канчаючы.

Прыемным фіналам гарадоцкага мерапрыемства было, як заўсёды тут, багатае застолле ў кампаніі расспяванага, гасціннага „Хутара”.

**Іаанна ЧАБАН**

# Чаромхаўскія жанчыны (2)

Біяграфія Яніны Скок, шматгадовага педагога і грамадскага дзеяча, даволі багатая (чытай: „Чаромхаўскія жанчыны” ў „Ніве” № 6 ад 10 лютага). Яна — узор для перайманя маладому пакаленню. Ветлівасць, добрасумленнасць, здольнасць прыкмячаць грамадскія праблемы і ўражлівасць на людскія патрэбы гэта рысы характару 81-гадовай пенсіянеркі. Пажылая бабулька карыстаецца добрым здароўем, таму рашыў я наведаць знаёмую і пагаварыць пра мінулае.

Фота аўтара

Сустрэча адбылася 4 лютага і доўжылася больш за гадзіну ў сардэчнай атмасферы.

— Скажыце, калі ласка, — звяртаюся да гаспадыні, калі прыселіся мы побач стала ў шыкарна абсталяваным пакоі, — як успамінаеце мінулае?..

— На пенсіі я ўжо 24 гады, — пачала субяседніца. — Заяву аб выхадзе на пенсію падала я ў 1988 годзе пасля дасягнення 35-гадовага стажу. Для маладога стажора праца ў Чаромсе ў 1950-я гады гэта быў, несумненна, самы лепшы жыццёвы ўрок. Высокакваліфікаваныя настаўніцкія кадры і належна сфарміраваныя міжлюдскія адносіны дазволілі ў хуткім часе зглыбіць веды і акліматызавацца ў новым асяроддзі. З ходам часу ўключылася я ў шпаркі паток грамадскай дзейнасці. Неўзабаве даступіла гонару ўзначальваць гуртом Саюза польскіх настаўнікаў у школе, затым была выбрана членам Галоўнага праўлення гэтай жа арганізацыі ў Варшаве. У тадышні час прафсаюзы арганізавалі шмат краязнаўчых экскурсій. Дзякуючы гэтаму зведала я амаль усю Еўропу: Грэцыя, Балгарыя, Аўстрыя, Расея, Чэхія, Венгрыя, Румынія, Югаславія, Італія... Па сённяшні дзень захавалася ў мяне звычка краязнаўчых эскапад. Пры кожнай нагодзе карыстаюся экскурсіямі, арганізаванымі турфірмай „Орбіс”. У 2000 годзе, напрыклад, наведала Данію.

— А чым займаецеся на пенсіі?...

— У зімовы час апякуюся ўнукамі. Паколькі дачка штодзень працуе, еду ў Кляшчэлі і даглядаю дзетак. У летні час наведваю сына ў Сулеюўку. Дбаю аб здароўе, бо гэта наш скарб. Выкупляю санаторнае лячэнне ў Мендзыздроях, Цехацінку. У Чаромсе, напрыклад, падтрымліваю сяброўскія кантакты з былымі настаўнікамі: Верай Бахарэвіч, Любай Карчэўскай, Надзеяй Філіманюк...

— Скажыце, пані Яся, — звяртаюся ў заканчэнні да субяседніцы, — як успрымаеце працэс апошніх перамен у Чаромсе. Ці маем нейкі шанц на аднаўленне чыгункі, ці зарасце яна пустазеллем?

— Не бачу я карысных прыкмет на станоўчыя перамены, — з сумам заяўляе Яніна Скок. — Няма адзінства ў народзе. Не паводзім сябе як хрысціяне. Дзе ні глянь цараць нянавісць і подласць. Брак зразумення і пашаны чалавеку. А пра чыгунку трэба забыць. Надзённа па Беластоцкім радыё перадавалі, што, мабыць, адменяць курсіраванне цягнікоў на лініі Чаромха — Беласток. Такім чынам Чаромсе пагражае поўная дэградацыя. Але не толькі. Тычыцца гэта цэлай паўднёва-ўсходняй часткі Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Ужо чуецца гаворка, што моладзь гэтай часткі адмаўляецца паступаць у сярэднія школы Бельска-Падляшскага, бо не будзе чым дабірацца на заняткі. Вось да чаго дакаціліся!...

Абрываецца наша размова. Развітваюся з гаспадыняй з надзеяй, што чарговую размову правядзем у больш аптымістычным настроі.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Ad vocem к Сідаруковаму слову

Звяртаюся ad vocem да выказванняў Уладзіміра Сідарука, які ў артыкуле «Я не плачу, я рэальна думаю» («Ніва» ад 20 студзеня г.г.) піша: «Прачытаўшы адказ, М. К. пэўна скажа, што зноў плачу над разлітым малаком, бо заступаюся за адмененым цягніком а 6:42. Але ж не. Я хадайнічаю ў грамадскай справе».

Адкуль аўтару «адказу» вядома, што «М. К. пэўна скажа»? Вельмі добра, калі нехта «хадайнічае ў грамадскай справе», і я аб гэтым пісаў у сваім допісе ад 18 лістапада мінулага года. На жаль, Сідарук уважліва не прачытаў майго допісу. А пры тым інсінуе, што мне абыякавыя грамадскія справы, аб якіх так змястоўна піша спадар Сідарук, а гэта ўжо звышінтэрпрэтацыя маіх думак.

Пішы, крычы, дамагайся, калі маеш здароўе і ахвоту, дарагі сябра. Калі Твае намаганні, не толькі ў публіцыстыцы на старонках «Нівы», дадуць рэзультат, пакарыстаюцца імі жыхары гмін, праз тэрыторыю якіх пралягае жалезная дарога.

Думаць можам, што некалі вернецца слава вузлавой станцыі Чаромха. Пакуль што рэальная рэчаіснасць, як я ўжо пісаў, віскоча.

А цяпер другое ad vocem.

Я згодны з Сідаруком, што ёсць розніца між словам «даць», а «хацець прызначыць». Гаворка тут ідзе пра 30 млрд. злотых, аб якіх гаварыў у экспазе прэм’ер-міністр Дональд Туск, з прызначэннем іх на мадэрнізацыю чыгункі. Спадар Сідарук хацеў бы пачуць, што 30 млрд. прэм’ер-міністр дасць на чыгунку, а не нешта абы-як.

Можа ў іншых дзяржавах прэм’ер-міністры ці прэзідэнты раздаюць мільярды на розныя галіны гаспадаркі. У Польшчы, як бы Сідарук не ведаў, ёсць крышку інакш. Працэдура такая: урад прапануе, Сейм рашае, прэзідэнт сваім подпісам ставіць кропку над тым як, дзе, каму прызначыць грошы падаткаплацельшчыкаў, а камісары ЕС пільнуюць, каб дзялілі справядліва. Што гэта значыць справядліва, вядома.

Для спадара Сідарука ўсё ясна, што за ўсё ў дзяржаве адказвае прэм’ер-міністр, у тым выпадку Дональд Туск, якога на пасаду назначыў прэзідэнт. Выглядае на тое, што нешта Сідарук паблытаў. Ці ў 2011 г. не было выбараў пад канец года? Тады Дональд Туск, старшыня Грамадзянскай платформы — партыі, якая выйграла выбары, быў выбраны ў Сейм як прадстаўнік народа і прэзідэнт толькі прызначыў яго на пасаду прэм’ера як старшыню партыі і больш нічога.

Д. Туск, як і іншых 460 паслоў, мае мандат ад народа. Так гэта ўжо ёсць у дэмакратыі, пакуль што. І няхай так і застанецца.

А калі гаворка пра чыгунку, то ці абы за чыгунку Чаромха — Беласток і наадварот, не адпавядае самаўрад, а не ўрад?

Як я зразумеў адказ віцэ-маршалка Падляшскага ваяводства Валянціна Карыцкага на службовае пісьмо войта Чаромхаўскай гміны, цытаваны У. Сідаруком у згаданым допісе, маршалкоўская ўлада памяняла курсіраванне цягнікоў на трасе Чаромха — Беласток па эканамічных прычынах, і як бы дала магчымасць даехаць у Беласток вучням і студэнтам ці іншым пасажырам перад 8-й гадзінай раніцы. Фактычна, для вучняў, якія даязджаюць у бельскія школы, паўстае вялікая невыгада. Можна толькі мець надзею, што школы гэтую невыгоду нівелююць.

**Міхась КУПТЭЛЬ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

## Сем дачок

Было ў маці сем дачок. Вось аднаго разу паехала маці ў госці да сына, што жыў далёка. Вярнулася дадому аж праз тыдзень. Калі яна ўвайшла ў хату, дочкі адна за адной пачалі гаварыць, як яны сумавалі па маці.

— Я сумавала па табе, як макаўка па сонечным святле, — сказала адна дачка.

— Я чакала цябе, як сухая зямля чакае кроплі вады, — сказала другая.

— Я плакала па табе, як малое птушаня плача па сваёй матцы, — сказала трэцяя.

— Мне цяжка было без цябе, як пчолцы без кветкі, — сказала чацвёртая.

— Ты снілася мне як ружы сніцца кропелька расы, — сказала пятая.

— Я выглядала цябе, як вішнёвы садок выглядае салавейку, — сказала шостая.

А сёмая дачка нічога не сказала. Яна зняла з ног матулі чаравікі і прынесла ёй вады ў начоўках — памыць ногі.

**Васіль СУХАМЛІНСКІ**

фота Ганны Кандрацюк



На ўроку ў беластоцкай „чацвёрцы"

фота Міры ЛУКШЫ





## Конкурс пра зіму №7 (13)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. У час якога рэлігійна-народнага свята на Падляшшы асвячаюць свечкі?**

а) на Грамніцы,

б) у Папелец,

в) у апошнюю нядзелю лютага.

**2. Камаедзіца — народны абрад абуджэння мядзведзя меў на мэце:**

а) праспешыць надыход вясны,

б) дапамагчы вярнуцца птушкам з выраю,

в) усцерагчы рэкі перад веснавой паводкай.

**3. Якія звяры вернуцца жыць у Белавежскую пушчу (пакуль на беларускім баку лесу):**

а) туры,

б) дзікія коні,

в) мядзведзі.

Адказы на конкурс дасылайце да 28 лютага 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі").

**Адказ на конкурс № 3-13:** 1 — 25 сакавіка (б); 2 — у Пружанах (б); 3 — 80-годдзе Міколы Гайдука (а). Узнагароды, набор фламастараў-тонкапісаў (з бляскпарашком) выйграла **Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

## Гусі-воўк — гульня для наймалодшых

*(з народнага)*

Усе дзеці — „гусі". Сярод сябе выбіраюць яны ваўка і маці. Гусі стаяць насупраць маці, а воўк паміж імі, трохі збоку. Паміж маці і гусачкамі такі дыялог:

Маці: — Гусі, гусі!
Гусі: — Га-га-га.
Маці: — Просім есці!
Гусі: — Так, так, так.
Маці: — Дык ляціце!
Гусі: — Няма як.
Маці: — А чаму?
Гусі: — За гарою шэры воўк, не пускае нас дамоў.
Маці: — Вы ляціце, на ваўчышча не глядзіце!

Усе бягуць да маткі. Воўк ловіць. Калі зловіць каго, той пераходзіць да ваўка і разам з ім ловіць гусей. Так працягваецца, пакуль не будуць злоўлены ўсе гусі.

**(гак)**

*Анна БЯЛЯЎСКАЯ*

## „Гулянкі"

*Што такое „гулянкі"?*
*Гэта мары малых дзяцей,*
*Гэта свет у пакоі Ганкі,*
*Гэта вясёлыя галасы каралевен.*

*Калі настане вясна*
*I веткі будуць расцвітаць,*
*Ты глянь удалячынь, на палі,*
*Не бачыш? То ж ты забыў як гуляць!?*

*Гэта агарод чараўніцы*
*I яе цудны гай,*
*I хвост рыжай лісіцы.*
*Гэтага ты ніколі не забывай!*

*А цяпер глядзі ў хату,*
*Хоць за акном ужо зіма —*
*Дзеці там п'юць шакалад*
*А потым бягуць да пакояў — гуляць!*

*I пакой стане казачнай краінай,*
*Дзе смэрфы ў хатках жывуць,*
*Дзе князь каралеўну будзіць пацалункам*
*А сірэнкі ў мора паплывуць.*

*Сёння тэлевізар і камп'ютар як Бог,*
*Ля яго ўсе людзі сядзяць і маўчаць.*
*А калісьці была радасць у хаце*
*I „гулянкі" — у сэрцы дзіцяці.*

*Цяпер ведаеш — што гэта гулянкі?*
*Гэта ўсё тое, чаго не ўбачыш.*
*Гэта ўсё, што маеш у сэрцы,*
*Гэта ўсё, што ў галовах нашых.*

*I яшчэ раз паўтараю — гуляць, гуляць, гуляць…*
*…каб аб „гулянках" не забываць.*

## Вершы Віктара Шведа

### Тунэль муж капае

Турмы начальніка прасіць
Турэмшчыка жонка Зося:
— Каб бедны мой муж, Ігнацы,
Мог мець лягчэйшую працу.

— Што цяжка, ніхто не паверыць,
Склейваць мяшочкі з паперы.
— Мой бедны муж наракае,
Што ноччу тунэль ён капае.

### Якая розніца?

Прыйшоў бацька да прадшкольля
Па сваё дзіцятка.
Яго наогул з добрай волі
Забірае матка.

— Ды не мой гэта сыночак,
Даражэнькі Воўка.
— Заўтра ж, хочаш ці не хочаш,
Прывядзеш нам зноўку.

# Беласток не горшы!

Беларуская дыктоўка ў Беластоку? На гэтае пытанне можна адказаць так: НАРЭШЦЕ! Па ініцыятыве настаўніцы Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія Іаанны Марко ў нас таксама адзначаць **Сусветны дзень роднай мовы,** які выпадае **21 лютага**, у чацвер. Дыктоўка пакуль арганізавана толькі для вучняў пачатковай школы.


Хлопцы з гайнаўскай „шасцёркі” фота Ганны Кандрацюк

— Паколькі з'явіліся тры добраахвотнікі з другога класа, мы рашылі падзяліць удзельнікаў на дзве катэгорыі, — адзначае настаўніца. — Спачатку будуць пісаць класы I-IV, пасля іх да дыктоўкі прыступяць старэйшыя навучэнцы з класаў IV-VI.

Таксама 21 лютага адбудзецца трэці этап прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў пачатковых школ. У праваслаўнай школе аж шасцёх фіналістаў. Разам з мінулагоднімі лаўрэатамі яны таксама заявілі ахвоту прыняць удзел ў нацыянальнай дыктоўцы. У сувязі з гэтым конкурс пачнецца ў паабедні час, пасля прыезду ўдзельнікаў прадметнага конкурсу. Ці будуць праводзіцца аж тры конкурсы — пакуль невядома. Усё залежыць ад колькасці ўдзельнікаў.

Медыйны патранат над конкурсам узяла газета „Ніва”.

(гак)

# Гулянкі ў сэрцы дзіцяці

*Магчыма, праз дзесяткі гадоў мы не будзем хадзіць ужо ў школу! Уся навука будзе данесена праз мабільныя камунікатары, так што выходзіць за парог свае хаты не будзе патрэбы. Падумаеце, нарэшце скончацца ўсе пакуты! І як прыемна будзе паляжаць пад цёпленькай коўдрай, калі за акном трашчыць мароз і гуляе завіруха...*

*Але ці ўжо такая цеплыня і выгода будуць спрыяць нашаму шчасцю? Ужо сёння сацыёлагі грымяць, што пакаленне, якое праводзіць час на фейсбуку, загубленае і няшчаснае. Усе тыя тысячы віртуальных сяброў на сінім экране ніяк не ў змозе заступіць аднаго жывога сябры, з якім шчыра можна пагаварыць пра свае праблемы. Пра самотнасць сучаснага вучня вельмі трапна гаворыць Аня Бяляўская ў вершы „Гулянка”. Каб сагрэць сэрца дзіцяці, трэба сустрэч. Трэба супольных гульняў, жывога абмену думкамі, супольных змаганняў і нават сварак. Карацей, трэба жывых людзей. І думаць не толькі пра сябе самога, а пра тое, што ты сам можаш падарыць сябрам, прыяцелям. Варта, як Аня, пісаць пра свае назіранні, бо гэта таксама нашае адкрыццё на іншых дзяцей, людзей.*

**Зорка**


Дзяўчаты з бельскага „Капрыса”

# Музыка з кайфам

## Кайф на эстрадзе


Нарва

Сёння распавяду пра раённы агляд Фестывалю «Беларуская песня — 2013» у Беластоку. Прайшоў ён у мінулую нядзелю, а перад намі яшчэ цэнтральны агляд ды традыцыйны гала-канцэрт запланаваны на 2 сакавіка.

Фестываль беларускай песні напэўна патрэбны як слухачам, так і выканаўцам. Нехта скардзіўся мне, што гэта «ўжо не тое» ў параўнанні з колішнімі фестывалямі. Як гэта разумець? Думаю, ідзе пра кансалідацыю асяроддзя, пра ўзаемаадносіны і атмасферу, якая будуецца між самімі выканаўцамі, бо на цёплы прыём і адкрытасць публікі разлічваць можна заўсёды. Мяняецца гэта, бо і пакаленні мяняюцца, але не мяняецца патрэба выступаць. Захапляе колькасць маладых людзей, якая спявае, танцуе і забаўляе публіку, так у выпадку хароў, як і эстрадных калектываў. Не хапае, на маю думку, толькі густоўнасці. І тут, у якасці прыкладу, прыйшоў мне з дапамогай хор «Загадка» з Супраслі. Дарослыя людзі паказалі моладзі як добра выглядаць на сцэне і не капіраваць тупа танцавальных схем родам з савецкай культуры. У вакальным плане былі і лепшыя за іх выканаўцы, але яны былі натуральныя, добра сябе адчувалі ў сваёй скуры. Але ж, можна і пастарацца зрабіць добрую копію. Мяне заваражылі дзяўчаты з Рыбалаў. Маладзенькі дуэт, які яшчэ шмат працы мусіць уклусці ў якасць выканання, так незвычайна прыцягваў увагу, што другараднае значэнне мелі тут розныя выканаўчыя недахопы. Затое я не магла зусім слухаць хлопца з Міхалова. Нічога, што мае добры голас, але на сцэне вёў сабе нібыта Юрка Астапчук, спяваў песні ў аранжыроўках «Прымакоў», выглядаў як двайнік лідара гэтага гурту. Я гэтага зразумець не магу. Саліста да выступу рыхтаваў сам Астапчук, але, на маю думку, роля майстра — знайсці цудоўную індывідуальнасць вучня, а не ствараць сваю копію.

Уражанняў ад агляду шмат і пералічыць тут усіх немагчыма. Факт, яны свежыя, бо шмат, шмат гадоў я не слухала і не ўдзельнічала ў аглядах, але добра, што яны ёсць.

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 7

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 3:

Характар, ар, эх, аэрадром, завея, метад, паж, рыса, сваяк, кот, скала, на. Паэтэса, хмара, пас, маяк, дзежка, апарат, ровар, ты, медык, сон, рэха, тата.

Узнагароды, CD з беларускай музыкай, выйгралі **Вікторыя Барэчка, Патрыцыя Бядрыцкая** з Нараўкі, **Арыядна Бакер, Эмілія Міхалёва, Оля Салавянюк, Наталля Аўласюк** з НШ св. КіМ у Беластоку, **Віялета Смолюк, Наталля Ніканюк** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kraj | | As | | | Rejs | Oj! | Pająk | Zdanie | |
| Raj / Pas | | | | Rój | | Szczyt | | | |
| | | | Echo / Las | | | | | Jaki | |
| | | Łój / Fa | | | | Wiąz | | | |
| | Park / Facebook | | | | | | | | |
| | | | | Klasa | | Wieloryb | | | |



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Бобрай (3)

Дарога з Яглова ў Дэмбова

Песня, што пачынаецца са слоў „ой рэчанька-рэчанька, чаму ж ты ня поўная, з беражком няроўная", магчыма, была складзена недзе на нашай Бобры. Бо ж там калісь, а нават не так даўно, насельніцтва карысталася беларускімі гаворкамі, напрыклад, у Яглове ў даваенны час (пра гэта было ў „Ніве" № 40 з 2011 года). Зараз там беларускія гаворкі ў адступленні перад польскай мовай.

Польская мова мае нейкую магічную намагнічанасць. Прафесар Ягелонскага ўніверсітэта Вацлаў Сабескі пісаў у міжваенны час, што кашубы, калі прапаведнік прабаваў звяртацца да іх не па-польску, толькі па-кашубску — выходзілі з касцёла! Мо носьбіты беларускай мовы і іх нашчадкі, на чале з Лукашэнкам, не такія ўжо і чужалюбныя дзівакі...

А Бобра, на адрэзку ад Дэмбова, дзе ў яе зараз уліваецца Нэта, да Далістова, надта паўнаводная, з беражкамі роўная. Калісь, яшчэ дзвесце гадоў таму назад, Нэта ўлівалася ў Бобру менавіта каля Далістова, даплываючы туды асобным рэчышчам. А рэчышча Бобры было разлічана прыродай толькі для яе, для Бобры. Калі ж туды будаўнікі Аўгустоўскага канала дабавілі ваду з Нэты, то яе стала надта многа.

Прадбачвалася, што каналам будзе праходзіць каля трох тысяч „берлінак" у год, кожная па сто тон грузападымальнасці, значыць каналам мела праходзіць трыста тысяч тон тавару ў год. Толькі ў тым часе людзі выдумалі іншыя сродкі транспарту і цяпер на Бобры пуста.

А калісь, як згадваюць летапісы і даўнія дакументы, там бурліла жыццё, якое прыцягвала браканьераў з даволі аддеглых рэгіёнаў. Вадзіліся ж там, у міжрэччы Бобры і Нэты, бабры і куніцы, якія яцвягі ў 1279 годзе абяцалі пасласць валынскаму князю Уладзіміру. І не дзіва, што тыя шкуркі, якія былі плацежнымі сродкамі ў эпоху сярэднявечча, прыцягвалі туды не толькі браканьераў, для аховы ад якіх і была заснавана вёска Ясянова, але і больш знатныя асобы, бо ж не для турыстычных мэтаў падаваліся туды навакольныя ваякі пад камандаваннем сваіх князёў, у тым ліку і будучага караля Данілы Раманавіча. На Бобры і Нэце быў своеасаблівы клондайк, які, мабыць, і наканаваў лёс тамашніх абарыгенаў — яцвягаў. Вось прыступку да таго трагічнага лёсу:

„Аповесць мінулых гадоў": „В лето 6491 (983). Иде Володимиръ на ятвягы и взя землю ихъ... В лето 6546 (1038). Иде Ярославъ на ятвягы... В лето 6620 (1112). Ярославъ ходи на ятвязе и победи я".

„Іпацьеўскі летапіс": „Въ лето 6743 (1235). Весне же бывши, [валынскія князі Даніла з Васількам] поидоста на ятвезе, и приидоста Берестью, рекамь наводнившимся и не возмогоста ити на ятвязе... Вь лето 6757 (1249). Тое же зимы Кондрать [той самы, які запрасіў крыжаносцаў каб зваяваць Прусію] присла посоль по Василка, река: „Поидемь на ятвязе". Падшу снегу и серену, не могоша ити и воротишася на Нуре... Вь лето 6759 (1251). Умре князь великий лядьскый Кондрать, иже бе славень и предобрь. Сожалиси по немь Данило и Василько [бо быў жанаты з рускай прынцэсай Агафіяй, якая, здаецца, цвёрда трымала яго пад каблуком; калі ў 1239 годзе быў у Плоцку павешаны адзін канонік, які падазраваўся ў змове супраць князя, і манахі знялі ягонае цела з шыбеніцы, каб пахаваць, Агафія з крыкам загадала павесіць яго зноў. Хто ведае, ці не на ейны загад Конрад запрасіў крыжаносцаў, незвычайна ўзбагачаючы навакольную гісторыю]. Потом же сынь его умре Болеславъ, Мазовешьскый князь, и вдасть Мазовешь брату своему Сомовитови, послушавь князя Данила: бе бо братучада [братава дачка] его за нимь, именемь Настасья. В та же лета седе Самовить во Мазовши. Посла к нему Данило и Василко, рекша ему, яко: „Добро видиль еси от наю и изиди с нами на ятвезе". И сняшася во Дорогычине, и поидоша, и преидоша болота, и наидоша на страну ихъ... Вь лето 6760 (1252). Потом же Данило сгада с братомь си и посла в Ляхы ко княземь лядьськымь, река, яко: „Время есть христьяномь на поганее, яко сами имеють рать межи собою". Ляхове же обещашася, нь не исполниша. [Не ўсе князі, у тым ліку і мазавецкія, ваявалі са сваімі суседзямі, некаторыя аддавалі перавагу мірнаму суіснаванню]... Вь лето 6762 (1254). Тогда же во Кракове беша посли папини, носяще благословение от папе и венець и сань королевьства, хотяще видети князя Данила. Он же рече имь: „Не подобаеть ми видитися с вами чюжей земли, нь пакы"... В лето 6763 (1255). Присла папа послы честны, носяще венець и скыпетрь и коруну, еже наречеться королевьскый сань, рекый: „Сыну, прийми от нась венечь королевьства". Древле бо того прислаль к нему пискупа Береньского [Брненскі, а дакладней — Оламаўцкі, што ў Маравіі] и Каменецького [а дакладней Любушскага, які меў рэзідэнцыю ў Апатаве каля Сандоміра, якому ў 1257 годзе папа Аляксандр IV назначыў місію ў Галіччыне], река ему: „И приими венець королевьства". Он же в то время не приялъ бе, река: „Рать татарьская не престаеть зле живущи с нами, то како могу прияти венець бес помощи твоей". Опиза [папскі легат] же приде венець нося, обещеваяся, яко: „Помощь имети ти от папы". Ономy же одинако не хотящу, и убеди его мати его, и Болеславъ, и Семовить, и боляре Лядьскые, рекуще, дабы прияль бы венець: „А мы есмь на помощь противу поганымь". Онъ же венець от Бога прия, от церкве святыхъ Апостоль, и от стола святаго Петра, и от отца своего папы Некентия [Інакенцій IV], и от всих епископовъ своихъ. Некентий бо кльняше техъ хулящимь веру грецкую правоверную, и хотящу ему сборъ творити о правой вере, о воединеньи церькви. Данило же прия от Бога венець в городе Дорогычине. Идущу ему на войну со сыномь Лвомь и со Сомовитомь, княземь лядьскымь, братъ бо ему воротися, бе бо язва ему на нозе, и посла вое свое со братомь все. Королеви же Данилу пришедшу на землю Ятвязьскую и воевавшу. Левь же уведавь, яко Стеикинть в лесе осеклься есть и с ним ятвязе, и гна на нь, поима люди, и приде к осеку. Ятвяземь вытекьшимь на нь изо осека, сущии же с нимь снузници возбегоша. Лвови же соседшу с коня одиному, и бьющюся с ними крепко. Видившимь же имь, яко Левь одинь бьеться с ними, навратишася малии на помощь ему. Лвови же убодшему сулицю свою вь щить его, и не могущу ему тулитися, Левь Стекыньтя мечемь убии и брата его проборе мечемь. Они же погибоша. Он же, гоняше я пешь, и они же на коних гоняще, побиваху ть я и бодяхуть я. Данилу же королеви, ставшу в дому Стекинтове, принесе к нему Левъ оружье Стекинтовь и брата его и обличи победу свою. Отцю же его королеви в радости бывши величе о мужьстве и дерзости сына своего. Коматови же приехавшу от ятвязь, обещевающимся имь в работе быти. Ляхом же исполнившимся зависти и льсти, наченшимь прияти поганымь. Се же уведавь Данило король, повеле воевати землю Ятвяжьскую, и домь Стекинтовь всь погублень бысть, еже о доныне пусто стоить. Данилу же королеви, идущу ему по езеру, и виде при березе гору красну и градь бывши на ней, преже именемь Рай [Райград]. Оттуда же приде в домь свой... Вь лето 6764 (1256). Поиде Данило на ятвязе с братомь и сыномь Лвомь и с Шеварномь, младу сущу ему, и посла по Романа в Новьгородокъ. И приде к нему Романь со всими новгородци и со отцемь своимь Глебомь и со Изяславомь со Вислочьскымь [Свіслачкім, што зараз за Ялоўкай], и со сее стороны приде Сомовить со мазовшаны и помочь от Болеслава со судомирци и краковляны. И бысть рать велика, якоже наполнити болота ятвяжьская полкомь. И бысть радость велика о погибели поганьской. И жьжаху домы ихъ, и пленяху села их. Ставши же на Правищихъ [магчыма, што мова тут пра Таргошча — праўдападобна ранейшую назву Далістова] на ночь, и поимавши же имения ихъ, пожгоша домы их. Наутрея же поидоша, пленяюще землю и жгуще... В лето 6765 (1257). *Даніла паслаў па даніну з яцвягаў — шкуркі чорных куніц і вавёрак, срэбра. І даў ён з даніны гэтай ваяводу ляцкаму, каб зведала ўся Ляцкая зямля, што яцвягі заплацілі даніну каралю Данілу, сыну вялікага князя Рамана. Пасля смерці вялікага князя Рамана ніхто з яцвягамі не ваяваў, апрача ягонага сына Даніла. Богам дадзена яму гэтая даніна і пайшоў слых па Ляцкай зямлі на памяць нашчадкам, што яму Бог дазволіў паказаць ягоную мужнасць. Як пісаў прамудры хранограф: „Добрыя ўчынкі асвячаюцца вякамі". Так і мы напісалі пра многія войны, і пра Рамана напісалі ў апошні раз...* Вь лето 6781 (1273). Посем же сдумавше князи [валынскія] поити на ятвязи. Приспевши же зиме, сами князи не идоша, но посла ша воеводы своя ратью. Ятвязем же собравшимся, не смеша битися с ними. И тако придоша с победою и с честью велекою ко своимь княземь. И посемь приехаша князи ятвяжьсции мира просяче собе. Они же одва даша имь и мирь. И ради быша ятвязе о мире и тако поехаша во свою землю".



Зліццё Аўгустоўскага канала (злева) з Бобрай

Гэтак даўнія летапісы паведамляюць нас пра паходы кіеўскіх, валынскіх і мазавецкіх князёў на яцвягаў. Ці яцвягам мірна чакалі толькі наступленняў ваяўнічых суседзяў. Ці так было ў сапраўднасці? Ці, сілкуючыся сённяшняй тэрміналогіяй, у славянскіх князёў быў лішак адрэналіну, а ў яцвягаў яго недастатак? Быццам у пазнейшыя эпохі ў беларускіх суседзяў і ў беларусаў? Ці мо аўтары летапісаў, якія былі на службе ў сваіх паноў, мусілі праслаўляць іх, каб тых паноў „добрыя ўчынкі" асвячаць навекі?..

Так мазавецкія, як і валынскія князі хадзілі на яцвягаў найвярнейшай цераз Візну. А як жа ставіліся да яцвягаў гаспадары самой Візны? Ці яны таксама ахвотна нападалі на сваіх суседзяў? Аказваецца, што мясцовыя ўладары Візны не былі зацікаўлены такімі канфліктамі, яны намагаліся жыць мірна, а не ствараць сабе пекла. Як і ў наш час, так і ў сярэднявечча ўсялякія беды найчасцей прыносілі вонкавыя прышэльцы. З суседзямі ладзіліся карысныя здзелкі, а вось вонкавыя магутныя ўладары адно ўсё чагось патрабавалі: ці то наяўнай даніны, ці то менш яўнай, прыхаванай пад місіянерскія лозунгі.

У 1170 годзе брат кашталяна Візны Балеста, па ініцыятыве апошняга, забіў разам з групай яцвягаў плоцкага біскупа Вернера. Балеста быў прымушаны аддаць Вернеру адну са сваіх вёсак, а такога ён даравацьне мог. Польскі гісторык Аляксандр Камінскі так пісаў пра гэта: „Spór zaostrzyły wystąpienia publiczne biskupa, potępiające Bolestę za bratanie się z poganami. Pogan, z którymi bratał się Bolesta, nazywa [biograf biskupa] Prusami, jednakże nie można wątpić, iż chodziło tu przede wszystkim o Jaćwingów. Poganie przychodzili do kasztelana ze skargami i zażaleniami o kradzieże, łupiestwa i napady, dokonywane przez Mazowszan, a skargi te Bolesta rozstrzygał i godził. „Prusowie" przynosili kasztelanowi podarunki i Bolesta podejmował zamożniejszych spośród nich ucztami. Częste w historiografii polskiej charakteryzowanie stosunków prusko-polskich i jaćwiesko-polskich jako nieznośnych — wskutek zaciętej napastliwości Prusów i Jaćwingów — oparte jest na sugestiach źródeł późniejszych, pisanych w związku z rozpoczęciem polskiej akcji misyjnej i z instalacją zakonu krzyżackiego; w szczególności zaważyły tu inspiracje Długosza. Natomiast wgląd w materiał źródłowy z czasów przedkrzyżackich zarysowuje obraz zgoła odmienny: granica prusko-polska i jaćwiesko-polska czynią wrażenie granic najbardziej ustabilizowanych i stosunkowo najspokojniejszych; żadna z relacji o męczeństwie św. Wojciecha nie charakteryzuje Prusów jako złych sąsiadów i napastników".

(працяг будзе)

Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

# Паэзія дарогай да чалавека...

— Хаця маем непаэтычны час, паэзія маецца цалкам добра, — падагуліў Тамаш Мельцарак, журналіст з Лондана пасля V Фестывалю славянскай паэзіі ў Варшаве ў лістападзе мінулага года. — Паяўляюцца новыя вершы і новыя паэты. Квітнее таксама і беларуская паэзія, таксама на Беласточчыне. Мяне захапляе перш за ўсё іхняя ўнутраная патрэба пісання, выказвання такім чынам сваіх найглыбейшых думак і пачуццяў. Беларускія творцы расказвалі аб ролі, якую ў іх жыцці адыграла праца над захаваннем і развоем беларускай мовы. Гэта дзесяткі публікацый, сотні артыкулаў і сустрэч, шмат гадоў прысвечаных творчай працы, публіцыстычнага і педагагічнага старання прыносіць і сёння эфекты, паколькі беларуская паэзія займае штораз больш значнае месца ў еўрапейскай творчасці.



Пасля сустрэчы ў Культурным цэнтры Беларусі

Ад пяці гадоў фестываль арганізуе Аляксандр Наўроцкі — паэт, эсэіст, перакладчык, галоўны рэдактар часопіса „Poezja dzisiaj". Дзесяткі паэтаў з усяго свету, між іншым „белавежцаў", запрасіў таксама Адам Сяменчык з Гарадка, які найчасцей цяпер пражывае ў Лондане. Гэта дзякуючы яму першы раз у фестывалі славянскай паэзіі прынялі ўдзел паэтычных фестываляў у Смэдэрэве каля Бялграда, Стэфан Заёнц з Нямеччыны, Грант Алексанян і Вардан Гакабян з Арменіі, польскія паэты, пражываючыя ў Вялікабрытаніі Пётр Кас'яс, Паўліна Кшыжаняк, расійскія паэты м.інш. Андрэй Шчарбак-Жукаў, Алена Карнеева, Ірма Стырлінгава...

Сустрэча з „белавежцамі" інаўгуравала ўвесь фестываль. Адкрываючы яго Аляксандр Наўроцкі крыху жартам сказаў, што такія сустрэчы ёсць для таго, каб славяне не мусілі зносіцца паміж сабою па-англійску. Заўважыў таксама, што «Усход гэта „душа чалавека", а Захад — „вытворчая машына". Калі славяне спяваюць, усе плачуць. Захад спявае дасканала, але тэхнічна, бо не стае ім сэрца». От, славяне часам любяць пашкадавацца над сабою, што штосьці ім не ўдаецца, а на Захадзе трэба ўсміхацца, быць задаволеным, нават ляжаўшы на аперацыйным стале...



Адам Сяменчык (першы злева) вядзе сустрэчу з „белавежцамі" ў КЦБ у Варшаве. Першы справа — А. Наўроцкі

ты з Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — Віктар Швед, Міра Лукша і Лідзія Маліноўская.

— На фоне міжнароднай гронкі паэтаў выпалі яны добра, рэкамендуючы сваю творчасць без нейкіх комплексаў і з гонарам адзначаючы сваё падляшскабеларускае паходжанне, — сказаў Аляксандр Наўроцкі, які разам з Сяменчыкам вёў сустрэчу з „белавежцамі" ў Культурным цэнтры Беларусі ў Варшаве. Сярод запрошаных гасцей, дзесяткаў вядучых паэтаў славяншчыны з Польшчы і замежжа, апынуліся м.інш. Лілія Газізава з Татарстана, Уладзімір Баярынаў — старшыня Маскоўскага аддзела Саюза расійскіх пісьменнікаў, Ангела Дымчава з Балгарыі, Сяргей Главюк — паэт і выдавец серыі славянскіх паэтаў, Мажэна Мацкойць і Альжбета Чарняўская з Вільні, Адам Сяменчык — заснавальнік групы „ПаЭзія Лондан", аўтар анталогіі „Piękni ludzie — poezja mojej emigracji", Мітэ Стэфоскі з Македоніі, Горан Дзёрдзевіч з Сербіі — шматгадовы арганізатар міжнародных па-

— Аляксандр Наўроцкі крэуе візію пісання, — заўважыла Івэта Паплаўская-Матушак, — у кожным сказе запаўняе прабелы невідочных думак, прамуючых мову. Ягоная „Poezja dzisiaj" — шматпластавае выданне аб шматлікіх дзеяннях з галіны супрацоўніцтва славянскай творчасці. А разам з развоем культурнага супрацоўніцтва паяўляюцца новыя ідэі, новыя гарызонты абмену досведам. Наша славянская тоеснасць запісана ў сіле нашых чаканняў, тузе па землях паходжання нашых славянскіх продкаў. Мы тут лучымся — усе ўражлівыя на пісанае слова. Удзельнікі фэсту адбылі адмысловае падарожжа па шматлікіх краінах еўрапейскай супольнасці ў славянскім духу. Паэзія гэта алійная галінка, якой цень прыносіць палёгку, гэта бальзам, які лагодзіць шарупаватасць жыцця. Паэзія кранае філасофскія, экзістэнцыяльныя і ўніверсальныя праблемы. Інтэграцыя, адабрэнне, міжнародная талерантнасць былі вядучай думкай усіх сустрэч.

Наступныя сустрэчы праводзіліся ў Клубе кнігара і ў Музеі імя Адама Міцкевіча на Старым Месце, у Цэнтры расійскай навукі і культуры. Замежныя паэты перадавалі польскім паэтам іхнія паэтычныя кніжкі, перакладзеныя на польскую мову і выдадзеныя ў іх краіне і наадварот. Чыталіся тэксты іх аўтарамі і Дарыюшам Бэрэскім, спяваліся песні, прэзентаваўся новы нумар „Poezji dzisiaj".

Адам Сяменчык з Гарадка, якога польска-англійская кніга „Zakrzyki" стала лаўрэаткай апошняга Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА, выдаў новую кнігу — эсэ-анталогію „Piękni ludzie". Сярод польскіх паэтаў-эмігрантаў апынуліся няпольскія аўтары, якія пішуць таксама на сваіх мовах, між іншым, Міра Лукша. Ідэя напісання кнігі нарадзілася ў аўтары з моманту публікацыі яго ў лонданскім „Polish Observer". Адам ужо тады пісаў артыкулы з думкай аб анталогіі. Разам са сваёй сястрой Мартай Брасарт стварыў у Лондане групу „PoEzja Londyn", якая з'яднала аўтараў, перш за ўсё паэтаў, пражываючых на чужыне. Спісак магчымых аўтараў перасягаў за 200 асоб. Адам Сяменчык выбраў аўтараў, якія, паводле яго, маюць значэнне для эміграцыйнай паэзіі і яго самога. Анталогія будзе перакладвацца на іншыя мовы, між іншым на англійскую, літоўскую, балгарскую і беларускую, будуць прамоцыі ў розных еўрапейскіх краінах на адмысловых сустрэчах, фестывалях славянскай паэзіі, а 16-17 сакавіка — на Сусветным дні паэзіі ЮНЕСКА ў Лондане, на які запрошаны таксама аўтары, творы якіх увайшлі ў анталогію, між іншым Міра Лукша з Беластока ды Мажэна Мацкойць з Вільні.

Ізабэль Монік Біл:

— Кніга „Прыгожыя людзі" гэта прыгожая кніга аб прыгожай паэзіі і паэтах, блукаючых па свеце і краіне. Артысты ўлоўленыя пры жыцці, дацэненыя пры жыцці, бо важнае тут і цяпер. Без „шуфлядкавання", без лімітавання, кожны застаў свой кавалак зямлі для вырошчвання родных слоў. Кніга ўзнікала два гады і цяпер яна сапраўдны рарытэт. Гэта кавал часу, ахвоты ды жыцця Адама Сяменчыка, які ў пашане для паэтычных душ стварыў сваю кнігу. Гэта магутнасць сяброўства і супрацоўніцтва, без зайздрасці і зласлоўя. Хопіць схапіцца за рукі і ў паэзіі знайсці супольную малітву...

Адам Сяменчык, мастак і паэт, які пачаў ад дэбюту ў „Ніве" яшчэ ў ліцэйскія гады, са сваёй кніжкай і выдаўцом Аляксандрам Наўроцкім ды паэтамі Марленай Зінгер ды Юльюшам Эразмам Болькам сустракаліся таксама на роднай Адаму Гарадоцкай зямлі, у Міхалове і ў Беластоку. Думае пашырыць сваю кнігу на новых аўтараў, блізкіх яму і ягонаму духу. 20 лютага — сустрэча з Адамам Сяменчыкам і некалькімі аўтарамі з яго анталогіі (м.інш. Мажэнай Мацкойць) — на Літаратурнай серадзе ў Падляшскай ксёнжніцы (вул. Кілінскага, 15 у Беластоку).

## Маланка праўды

З пустых ветра прозвішчаў
Прадаўцоў праўды святой
Што на руках іх застыла
Праваслаўная кроў
Яны нам краіну будуюць
Зусім самім сабе чужую
У вопратцы глабалізацыі
Пад маскай містыфікацыі
Грамадства поўнай інвігіляцыі
Адвыслаўянізацыі
Хаваем свой сапраўдны твар
Што не выкажам да канца
Сну каляровага міража
Толькі ўпарта верым у тое
Што нам на талерку подана
Масмедыяў штодзённага рэстарана
З вагі праўды адной шалі
Топім учарашні свой жаль

Але прыйдзе час
Ён з'яднае ўсіх нас
Разгарыцца праўды святой
Ясна-светлы агонь
Хтосьці скажа за нас
Нашую крыўду, гора і боль
Ён будзе нас карміць золатам слоў
Не заглушаць голасу яго
Натоўпаў шум гучны мікрафон
Скончыцца матэрыяльны марафон
У момант усё праваліцца-сціхне
Як перад нейкім добрым-святым
У гэты час лепш паміраць паэтам
Народ сам сабе гібель выбярэ

Але апошняя іскра ў нас не згасне
І разгарыцца агонь вернай душы
І хаця заўладаюць чыпаліцы
Узгадаем нашы планы ды міражы
Што мы страцілі беспаваротна сапраўды
На тых, хто за наш боль распасліся
Займаюць ганарыстыя пасады
За тых, хто праўду прадаў за даляры
Ды знішчаныя нашыя чыстыя мары
Маланкай Неба праглыне цішыня

Шчырай справядлівасці агню
Ды спаліць праклятае зло да тла
Каб ізноў нам нарадзілася
Новага світанку вясна

11.01.2013
Юрка Буйнюк
Беласток

# Антон Неманцэвіч маліўся за Беларусь

Згадваючы пра даваенны пасёлак Альбярцін (цяпер мікраараён Слоніма), нельга абмінуць адну яркую беларускую асобу — Антона Неманцэвіча (1893-1943), якому сёлета 8 лютага споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння. Гэта быў беларускі ўніяцкі царкоўны дзеяч, выдавец, публіцыст, вязень савецкіх і нямецкіх турмаў.

Нарадзіўся ён далёка ад сваей радзімы — у сталіцы Расейскае імперыі — Санкт-Пецярбургу (па іншых звестках на Сакольшчыне) 8 лютага 1893 года. Ягоныя бацькі, Вікторыя і Ян, прыехалі туды з ваколіц Саколкі. Бацькі выхавалі яго добрым і ахвярным каталіком. Скончыўшы вядомую ў Пецярбургу прыватную каталіцкую гімназію св. Кацярыны, малады юнак выбраў нялёгкую святарскую дарогу. Пасля заканчэння ў 1915 годзе каталіцкай семінарыі, ён адразу паступіў у мітрапалітальную духоўную акадэмію, якая ў той час існавала ў Пецярбургу.

У тым самым годзе Антон Неманцэвіч становіцца сябрам беларускага кола ў гэтай акадэміі. Большасць яе чальцоў стануць пазней шчырымі руплівцамі магутнага руху беларускага каталіцкага адраджэння пачатку XX стагоддзя.



Грэка-католікі ў Альбярціне. У трэцім радзе другі справа Антон Неманцэвіч, 1935 год.




Часопіс, які выдаваў Антон Неманцэвіч

Але папрацаваць на карысць Богу і народу на Бацькаўшчыне святару давялося толькі ў 1929 годзе. Перад гэтым айцец Антон паспеў двойчы (у 1919 і 1921 гг.) пабываць у савецкім астрозе за „занадта актыўную рэлігійную дзейнасць”. Пасля, па накіраванню мітрапаліта Эдварда Ропа, выехаў на вучобу ў Рым у Папскі ўсходні інстытут і вярнуўся ў Польшчу доктарам усходніх царкоўных навук.

Восенню 1929 года Антон Неманцэвіч прыехаў на сваю Радзіму ў пасёлак Альбярцін, што каля Слоніма, дзе паступіў у навіцыят айцоў езуітаў усходняга абраду. Там ён выконваў святарскія абавязкі ў Альбярціне і пры ўніяцкай парафіі ў Сынковічах. У 1932-1937 гадах рэдагаваў беларускі ўніяцкі часопіс „Да злучэньня”. А ў 1938 годзе разам з Янам Урбанам выдаваў часопіс „Злучэньне”.

У 1940 годзе львоўскім мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім нелегальна быў зацверджаны Беларускі экзархат грэка-каталіцкай царквы, кананічна пацверджаны праз год Ватыканам і ўзначалены Антонам Неманцэвічам. Беларускі экзарх, як духоўны прадстаўнік беларускага народа, мог выступаць ад ягонага імя ў Ватыкане.

У траўні 1942 года айцец Неманцэвіч разам са сваімі паплечнікамі заснаваў Апостальства малітвы за Беларусь. Гэта значыць, кожны грэка-каталіцкі святар абавязаўся адзін раз у месяц праводзіць службу, на якой маліўся за беларускі народ. Але ўжо праз тры месяцы Антона Неманцэвіча арыштоўваюць супрацоўнікі СД, вывозяць яго ў Мінск і там 6 студзеня 1943 года расстрэльваюць. Па іншай версіі, святар быў замучаны ў мінскай турме СД. Яго пахавалі 9 студзеня 1943 года на нямецкіх могілках у Мінску святаром мясцовай праваслаўнай царквы.

Пасля таго, як не стала ў Альбярціне Антона Неманцэвіча, уніяцкія манахі вельмі хутка пакінулі Слонімшчыну і выехалі ў Львоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




# www.civicbelarus.eu

У аглядах палітычных сайтаў на старонках „Нівы” ўжо адзначалася, што Чэхія стала адным са значных цэнтраў актыўнасці беларускай эміграцыі. Але наўрад ці гэта было б магчыма, калі б не было на тое згоды як тамтэйшых улад, так і тамтэйшага грамадства. І вось не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся сайт, які з'яўляецца своеасаблівым працягам распаўсюду поглядаў чэшскага грамадства на грамадства беларускае, і ён мае назву „Грамадзянская Беларусь” — адпаведна назве аднаго міжнароднага грамадскага аб'яднання. Месціцца ён па адрасе www.civicbelarus.eu.

„Аб'яднанне імкнецца да падтрымкі няўрадавых і непрыбытковых арганізацый на Беларусі, улучна тых грамадзянскіх ініцыятыў, якія былі рэжымам Аляксандра Лукашэнкі пазбаўлены магчымасцей дзейнічаць легальна. Мэтай аб'яднання з'яўляецца падтрымка развіцця беларускіх няўрадавых арганізацый і іх узаемнага супрацоўніцтва з чэшскімі партнёрамі. „Грамадзянская Беларусь” таксама імкнецца перадаваць чэшскі досвед грамадскай і палітычнай трансфармацыі на Беларусь”, — так азначаюць сябе актывісты арганізацыі, якая існуе ўжо з 2004 года, на старонцы „Пра нас”. Сярод іх такія вядомыя ў Чэхіі людзі як сенатар Пэтр Брацкі; былы міністр унутраных спраў і сенатар Ян Румл; дырэктар Цэнтра дэмакратыі і правоў чалавека арганізацыі „Чалавек у нядолі” Марэк Свобада; сенатар Ярамір Шцэціна і іншыя. Адметна, што адным з заснавальнікаў арганізацыі быў драматург, пісьменнік, былы прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавел, які адышоў у лепшы свет у снежні 2011 года.

Калі казаць пра знешні выгляд сайта „Грамадзянская Беларусь”, то ён складаецца з большага з чырвонага і белага колераў, мае ўсяго тры старонкі і тры моўныя версіі — англійскую, беларускую і чэшскую.

Першая старонка сайта „Навіны” не надта часта абнаўляецца. Апошняе абнаўленне датуецца 29 лістапада мінулага года. Праўда, і дагэтуль тая навіна не страціла сваёй актуальнасці, бо яна змяшчае заклік да вызвалення двух палітычных вязняў у Беларусі — Зміцера Дашкевіча і Міколы Статкевіча. Наведвальнікі сайта запрашаюцца да подпісу петыцыі ў падтрымку гэтых палітзняволеных. Таксама падаюцца адрасы тых месц адбыцця пакарання, дзе знаходзяцца зараз Дашкевіч і Статкевіч.

Таксама на галоўнай старонцы сайта з левага боку месціцца вышчэй за некаторых рубрык, якія будуць цікавыя тым, хто хоча нейкім чынам звязаць сваю дзейнасць з Чэхіяй. Так, у рыбрыцы „Стыпендыі” ходзіць пра тое, як стаць удзельнікам нейкай навучальнай праграмы і атрымліваць стыпенды, вызначаныя чэшскім урадам альбо грамадскімі арганізацыямі.

Рубрыка „Станьце валанцёрам” заклікае далучацца да агульнай працы з „Грамадзянскай Беларуссю”. „Мы будзем рады прыняць валанцёрскую дапамогу ў выглядзе пісьмовага перакладу паміж англійскай, чэшскай і беларускай мовамі, абнаўлення вэб-сайта, суправаджэння нашых гасцей пры іх сустрэчах у Беларусі, вуснага перакладу ў Беларусі (з чэшскай або англійскай моў) і да т.п.”, — распавядаецца на той старонцы.

Ну, а калі нехта зацікавіўся супрацоўніцтвам з чэшскай арганізацыяй на карысць беларускай грамадзянскай супольнасці, таму варта звярнуць увагу на старонку „Кантакты”, у якой падаюцца паштовы адрас, тэлефоны і іншыя кантакты „Грамадзянскай Беларусі”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




Сціплы руплівец беларускай справы

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Серафіма Татарына

13 лютага спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Серафіма Татарына, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, актывіста Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы. Гэтая асоба не надта вядомая нават у колах, заангажаваных нацыянальнай гісторыяй. Нарадзіўся Серафім Татарын у вёсцы Вострава на Зэльвеншчыне. У роднай мясціне скончыў тры класы царкоўнапрыходскай школы. У гады Першай сусветнай вайны вучыўся ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі. Потым сям'я была змушана з'ехаць у бежанства. Рэлігійную і свецкую адукацыю праваслаўны юнак з прозвішчам Татарын працягваў у расійскім Ніжнім Ноўгарадзе. Там жа пайшоў на працу ў аддзел сацыяльнага забеспячэння. На радзіму сям'я вярнулася ў 1920 г.

Пэўны час Серафім Татарын настаўнічаў у вёсцы Лабзова, пасля працаваў на гаспадарцы. З сярэдзіны 1920-х гадоў ён уваходзіць у рух ТБШ і Грамады. У сваёй вёсцы ён арганізоўвае беларускую школку, стварае гурток ТБШ. Неўзабаве займае ўжо каардынатарскія пасады — становіцца намеснікам старшыні Слонімскага павятовага камітэта Грамады, у Вільні ўваходзіць у сакратарыят гэтай партыі, пазней выконвае абавязкі рэдактара-выдаўца газеты „Наша праўда”. Увесь гэты час Татарын курсуе паміж Слонімам, Вільняй, рознымі вёскамі, Навагрудкам. У апошнім горадзе ён быў сакратаром павятовага клуба „Змаганне”.

Неаднаразова Серафім Татарын за сваю руплівую асветніцкую дзейнасць арыштоўваўся тагачаснай польскай уладай і зняволваўся ў турмы. Геаграфія яго вязніцаў такая ж шырокая, як і дыяпазон дзейнасці. За сем гадоў — з 1929 па 1936 г. — ён адсядзеў у турмах значны час па абвінавачанні ў „антыдзяржаўнай дзейнасці”. Выйшаўшы на волю, працаваў у падполлі. Быў зноў арыштаваны і зняволены ў Картуз-Бярозе. А прыйшоўшыя саветы таксама расцанілі Татарына як „шкодны элемент” і таксама рэпрэсавалі. У кастрычніку 1939 г. ён быў арыштаваны ўжо як „польскі шпіён” і прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Быў этапаваны ў Іўдэльскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобласці. Толькі ў жніўні 1941 г. ён быў вызвалены па амністыі і пайшоў на фронт. Вайну прайшоў ажно да канца яе завяршэння, быў паранены і адзначаны баявымі ўзнагародамі.

Пасля вайны Серафім Татарын скончыў завочна Ваўкавыскую педагагічную вучэльню, затым паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, які неўзабаве быў зачынены. Яшчэ пазней вучыўся на гістарычным факультэце Мінскага пединстытута. Знайшоў сваё прызванне ў выкладанні гісторыі школьнікам, працаваў у Востраўскай школе, стварыў там краязнаўчы школьны музей.

Памёр Серафім Татарын у ліпені 1988 г., пражыўшы разам са сваім народам цэлую эпоху XX стагоддзя.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Беларуская песня - 2013” у Дуброве



У нядзелю, 3 лютага, у Дуброве-Беластоцкай адбыліся раённыя элімінацы ХХ Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня — 2013”. Арганізатарам мерапрыемства было Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і Гмінна-гарадскі асяродак культуры ў Дуброве-Беластоцкай. Імпрэза была зрэалізавана пры падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі і пры дапамозе Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

Зала кінатэатра „Лотас” была запоўнена амаль да апошняга месца. Сабраных гасцей прывітаў Ян Сычэўскі — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і Мацей Сулік — дырэктар Гмінна-гарадскога асяродка культуры ў Дуброве-Беластоцкай. На фестывальным адборы прысутнічалі бурмістр Дубровы Тадэуш Цішкоўскі з жонкаю, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Дуброве а. Мікалай Дайнека з матушкай, радны Сакольскага павета Ежы Бяламызы, сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч і многа іншых, якім на сэрцы ляжыць беларуская культура.

У рамках конкурсу мы пабачылі два калектывы: „Гранд” з Грабянёў пад кіраўніцтвам Яна Петушынскага і „Капэля Мундка” з Саколкі, якой кіруе Зыгмунт Кундзіч. У іх выкананні мы пачулі ўсім вядомыя і ўсімі любімыя беларускія песні. Ян Петушынскі са сваім калектывам у конкурсе ўдзельнічае кожны год і, як сам кажа, культываваць беларускую мову і песню гэта яго павіннасць. На пытанне чаму так мала людзей спявае па-беларуску ён мне сказаў, што мы самі сабе вінаватыя, бо не гаворым у хаце па-беларуску, не вучым сваіх дзяцей роднай мове. Проста, мы саромімся таго, што мы — беларусы. Такая праўда на Дуброўшчыне! Толькі старыя людзі гавораць яшчэ папросту, а моладзь разумее, але не гаворыць.

Атракцыяй мерапрыемства быў канцэрт калектыву „Гарадніца” з Гродна. Вельмі цікавы калектыў разагрэў і развесяліў нашых гасцей. Вясёлыя дзяўчаты з калектыву проста падхапілі дуброўскую публіку да танца!

Аказваецца, такія імпрэзы павінны адбывацца часцей, каб дуброўскія беларусы маглі культываваць сваю культуру і не забываць сваіх каранёў.

**Тэкст і фота Галіны РЭДУХІ**

# Духоўныя ў маршалка

16 студзеня маршалак Вармінска-Мазурскага ваяводства Яцэк Протас сустрэўся з прадстаўнікамі дзейнічаючых у ваяводстве канфесій. Такія камерныя сустрэчы ладзяцца ўжо ад некалькіх гадоў. Маршалак Яцэк Протас падзякаваў гасцям за душпастырскую працу, за ладжанне і падтрымку мясцовых ініцыятыў. У рэгіёне праводзяцца шматлікія ініцыятывы. З фондаў Рэгіянальнай аператыўнай праграмы выкарысталі каля 6,5 мільярда злотаў, а разам з фондамі з іншых крыніц было ўсяго дзесяць мільярдаў. Маршалак адзначыў, што ў наступных гадах з гэтымі грашамі будзе тужэй.

Ксёндз Дымітр Гарасім з грэка-каталіцкага дэканата ў Вэнгажэве выказаў заклапочанасць асіміляцыяй моладзі. Мешаныя сужонствы вянчаюцца ў царкве, а дзяцей нясуць хрысціць у касцёл. Моладзь выязджае, бо на месцах няма працы. Не хапае грошай, уласнага ўкладу, на свае інвестыцыі; калі робяцца заходы за атрыманне крэдытаў, няма ўпэўненасці ці іх удасца сплаціць.

Евангеліцка-аўгсбургскі ксёндз Рудальф Бажаноўскі падзякаваў за дапамогу ўлад пры абнаўленні святынь у Вейсунах і Сарквітах.

Усе былі згодныя, што эканамічная сітуацыя Вармінска-Мазурскага ваяводства складаная. Марэк Лейк з Маршалкоўскай управы сказаў, што жыхары рэгіёна мусяць задавальняцца „інфраструктурным мінімумам”.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# 17.02 — 23.02

**(22.03. — 20.04.)** 17-18.02. чакаюць цябе важныя ўдалыя экзамены, прамовы. Праца, якую кончыш, захопіць і прынясе табе прызнанне. Маеш шанц паказваць свае правадырскія магчымасці. Пільнуйся, каб кагосьці не пакрыўдзіць. Час на інвестыцыі, нават калі трэба будзе крыху падціснуць папругу (узнагародай будуць пазнейшыя прыбыткі).

**(21.04. — 21.05.)** Хтосьці спрабуе выкарыстаць цябе для сваіх мэт; табе зла можа не прынясе, ды твае блізкія могуць аказацца на мінусе. Трымай язык за зубамі, не адкрывай сваіх сакрэтаў. Працуючы над новымі праектамі, не давай іншым унікаць у іх сутнасць (хтосьці схоча „пазычыць” твае задумы!). У сераду добра купіш мабільнік, камп'ютар.

**(22.05. — 22.06.)** Спешка не заўжды добры дарадчык. Для шмат каго будзеш незаменным. Будзь асцярожны — пагражаюць табе кантузіі і нешчаслівыя выпадкі, асабліва на лёдзе. Можаш трапіць у якуюсь пастку (або хаця застрагнуць у ліфце). Працуючых у мастацтве і творчасці чакаюць поспехі і славутасць. З 23.02. чакае цябе неабходнае нялёгкае рашэнне.

**(23.06. — 23.07.)** Паправіцца тваё здароўе, хаця пазбягай рызыкі і дбай аб насавыя пазухі. 16-20.02. — шанцы на сяброўства, паправа адносін у сям'і. Энергія сусвету падтрымае твае планы па перамене вобразу жыцця. Пазбудзься непатрэбных рэчаў і хаатычных людзей. Калі ты свабодны, чакае цябе крыху завіраванняў у пачуццях. Мінулыя перажыванні навучылі цябе асцярожнасці і лепш не думай аб вяртанні да былога.

**(24.07. — 23.08.)** Калі думаеш аб змене працы, не рабі гэтага 19-23.02. Не траць часу на сувязь без будучыні, можа за вуглом чакае цябе хтосьці больш цікавы? Дбай аб сябе, займайся гімнастыкай, ідзі на масаж, акупрэсуру. Чакаюць цябе грамадскія і службовыя сустрэчы, засяродзься на прафесійных і даходных мерапрыемствах.

**(24.08. — 23.09.)** Ты пасля 18.02. лёгкі здабытак для хвароб. Адпачывай, высыпайся, не еж абы-чаго, лепш адмоўся ад салодкага, уцякай ад смаркатых і закашляных. У другой палове лютага, калі перастанеш пераймацца драбязой, можа прытрапіцца табе нейкі смелы праект, якому варта аддацца. Адносіны з шэфам спачатку не вельмі лёгкія, пасля складзеце знакаміты тандэм.

**(24.09. — 23.10.)** 16-20.02. прадбачваюцца праблемы, якіх ты пазбег бы, калі б трапней рашаў. Пільна вучыся на сваіх памылках! Цікуе за табою інфекцыя. Не час на распусту ў выдатках. У другой палове лютага ў фірме пойдзе ўсё прыпяваючы; нават калі будзе лопаць твой графік, будзеш мець падставы для радасці.

**(24.10. — 22.11.)** Не сцягні на сябе цяжкасцей; прытармазі свае амбіцыі і ахвоту помсты, не рань блізкіх. Інтуіцыя табе падкажа, калі тваё цела будзе аслабленым і спатрэбіцца яму адпачынак. Можа насіліцца нямогласць, асабліва звязаная з суставамі, касцьмі. Непрадбачальны шэф — раз будзе хваліць, раз ганіць; адчакай. Ірай у латарэю, найлепш „неўпапад”. Прыцягнеш усё, што захочаш!

**(23.11. — 22.12.)** Інтэсіўны час, многа працы, але і радасці ад зробленага. Ды могуць прытрапіцца недагаворкі, аварыі, суткі будуць закароткія, каб усё парабіць. Не сорам нарабіцца да ўпаду і натаўчы прытым немалую касу (а будуць зайздроснікі!). У пачуццях зробіш усё, каб штосьці дзеялася. Людзі будуць выплаквацца на тваім плячы, ды ты захаваеш поўную зразумення ўсмешку на твары.

**(23.12. — 20.01.)** Вялікага кахання пачакаеш (тым больш, што шукаеш ідэальнага), ды грошы ўжо ідуць (да 26.02. зоркі дбаюць аб твае фінансы). Знакамітыя задумы самі будуць лезці табе ў галаву, а твае дзеянні будуць паспяховыя. Ды 18.02. не ўсё пойдзе па тваёй думцы і востра паспрачаешся з сябрамі.

**(21.01. — 19.02.)** Не выдавай больш чым заробіш, скажы стоп „прамоцыям” і „нагодам”, і людзям, якія ўжо цябе раней абманулі. Вынікі цяперашняга выбару будуць доўгатэрміновыя. У аўторак сустрэчы з важнымі людзьмі.

**(20.02. — 21.03.)** Не вер фальшывай інфармацыі, таму, чаго не ўбачыў сваімі вачыма. Твая дабрыня і рашучасць добра паслужаць табе і тваёй радні. Добры настрой прынясе здароўе. У кар'еры збірай сілы на будучы відны поспех.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Як хутка патрапіць у шпіталь

Апошнім часам мне прыйшлося патрапіць у шпіталь. Вядома, гэта не надта прыемны вопыт. Але калі чалавек ужо чакае ў прыёмным пакоі бальніцы, марыць пра тое, каб апынуцца за магічнымі дзвярамі, за якімі прабывае доктар. Сустрэчы з ім мы вельмі моцна чакаем. Аднак трэба знайсці ў сабе аграмадную порцыю цярплівасці. Я культурна і цярпліва чакала лекара ў чарзе на кансультацыю, хаця мне моцна балела. Аднак цяпер ведаю, што за цярплівасць лепшае нешта іншае. Я заўважыла некалькі добрых спосабаў, метадаў, каб хутчэй дайсці да лекара. Найлепш ведаць кагосьці, хто працуе ў медыцынскай установе. І з ім дагаварыцца. Тады на сакрэтны пароль выйдзе да хворага працаўнік аддзялення неадкладнай дапамогі ды завядзе хворага туды, дзе трэба. Другі спосаб — крычаць ды войкаць, што моцна баліць, ды дабівацца да дзвярэй, не звяртаючы ўвагі на іншых, якія сціпла чакаюць. Можна яшчэ прыйсці ўжо з накіраваннем у канкрэтны шпітальны аддзел ад сямейнага лекара. Або прыйсці з дзіцём. Яму можа быць і шаснаццаць гадоў, яно можа жартаваць і смяяцца, пасылаючы эсэмэскі са свайго смартфона. А можа лепш зламаць сабе, напрыклад, нагу? Праўдападобна пацыентаў з такімі траўмамі прымаюць неадкладна...




**Рысунак**
Дар'юша Вашчынскага

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — персідскую пагаворку.

1. горны паўднёваамерыканскі хрыбет = 13 _ 15 _ 14 _ 28 _;
2. салодкая страва з узбітай да пены ягадна-малочнай масай = 10 _ 34 _ 3 _;
3. штраф за нетэрміновае выкананне дамовы = 24 _ 12 _ 27 _ 32 _;
4. пугаўё з вяровачкай для падгону жывёлы = 1 _ 2 _ 19 _ 20 _;
5. правы прыток Роны ў Ліёне = 6 _ 8 _ 21 _ 11 _;
6. мёд разведзены гатаванай вадой = 31 _ 5 _ 7 _ 18 _;
7. важная карта або асоба = 4 _ 16 _ 17 _;
8. колькасць злоўленай рыбы = 22 _ 9 _ 25 _ 26 _;
9. абласны горад у Забайкаллі = 33 _ 30 _ 29 _ 23 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | | | | | 23 |
| | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Мізар, Відзы, Эльзас, донар, кіно, арганіст, пік, радасць, паводзіны, Біблія, зрок, Чэхія, паніхіда.

Рашэнне: **Здраднік за агрызкі прадасць родных і блізкіх**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Бельскія кліматы

Беларускі хор «Васілёчкі», беларускі калектыў «Маланка», калектыў «Куранты», у якога рэпертуары ёсць таксама многа песень на беларускай мове, Хор польскай нацыянальнай песні, Украінскі калектыў песні і танца «Ранок» і Студыя песні «Фарт», якія дзейнічаюць пры Бельскім доме культуры, удала выступілі 2 лютага на сваёй сцэне ў рамках «Бельскіх мастацкіх кліматаў». Канцэрты паасобных бельскіх калектываў пачаў арганізаваць гадоў пятнаццаць таму назад тадышні дырэктар БДК Сяргей Лукашук. Тры гады таму паявілася ідэя прэзентаваць рэпертуар усіх калектываў у час аднаго мерапрыемства. Тады пачалі ладзіць «Бельскія мастацкія кліматы».


«Маланка»


«Куранты»

— Спачатку мы арганізавалі канцэрты паасобных калектываў, якія дзейнічалі пры БДК, пасля быў пяцігадовы перапынак. Ад трох гадоў ладзім «Бельскія мастацкія кліматы» — супольную імпрэзу для ўсіх нашых калектываў. Зараз я ўжо не дырэктар і прыйшоў сюды як пенсіянер, а выступаю як член «Маланкі», — заявіў Сяргей Лукашук, музычны кіраўнік гэтага калектыву. — «Бельскія кліматы» лічу важным мерапрыемствам, бо інтэгруе яно бельскае музычнае асяроддзе і стварае добры клімат для пазнейшых супольных гульняў.

Музычнае мерапрыемства адкрыла новая дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская, якая працуе на гэтай пасадзе са студзеня гэтага года.

— «Бельскія мастацкія кліматы» — фантастычнае мерапрыемства, якое паказвае шматкультурнасць Бельска-Падляшскага. Я ніколі раней непасрэдна не займалася развіццём культуры і перада мной новыя выклікі, — заявіла журналістам дырэктар Малгажата Біль-Ярузельская і дадала, што будзе падтрымліваць прапановы стварэння пры БДК таксама гуртоў з іншай музыкай, чым прэзентаваная ў час «Бельскіх кліматаў».

— У «Бельскіх кліматах» мы ўдзельнічаем ад самага пачатку. Усе калектывы выступаюць у час аднаго мерапрыемства, а пасля супольна гасцюем і гуляем, — сказала Галіна Саковіч з «Васілёчкаў». — Атмасфера ў нашым калектыве добрая. У 2012 годзе дайшло да «Васілёчкаў» ажно 8 новых спевакоў.

— Атмасфера ў «Васілёчках» нават на ўсе сто. Зараз нас ажно 29 асоб і, нягледзячы на наш узрост, ёсць у нас многа энергіі, весялосці і ахвоты да спеву, — заявіў Уладзімір Весялоўскі, былы карэспандэнт нашага тыднёвіка, які выступае ў бельскім хоры ад пачатку яго існавання.

Хор песні і танца «Васілёчкі» і калектыў беларускай песні «Маланка» выступілі ў час мерапрыемства вельмі ўдала і атрымалі гарачую падзяку ад публікі. Прэзентуюцца яны перш за ўсё з беларускім рэпертуарам і расслаўляюць нашую культуру. З'яўляюцца яны гонарам Бельска-Падляшскага і яго візітнай картачкай. Вельмі многа для развіцця беларускай культуры ў Бельску зрабіў шматгадовы дырэктар БДК Сяргей Лукашук, які з канцом мінулага года выйшаў на пенсію. На гэтай пасадзе перапрацаваў ён каля сарака гадоў. Перад тым, як стаў дырэктарам, займаўся беларускім калектывам «Васілёчкі», працаваў з «Дзявочымі ноткамі», нашымі калектывамі ў «тройцы». Зараз таксама не перастаў быць музычным кіраўніком «Маланкі». У горадзе, якому тысяча гадоў, да прапагандавання беларускай песні спрычыняюцца таксама шматлікія маладзёжныя і дзіцячыя вакальныя калектывы — «Жэмэрва» са Студзіводскага музея, «Спадчына», а раней «Дзявочыя ноткі» — з Бельскага белліцэя, беларускія калектывы з бельскай белгімназіі — «Капрыс» і «Вянок», беларускія гурты з пачатковых класаў «тройкі» — «Жэўжыкі» і два калектывы, з якімі займаецца настаўніца Анна Вярцінская, ці беларускі калектыў «Лянок», які нядаўна паўстаў у Дзіцячым садку імя дзіцяткі Гаўрыіла. Такой вялікай колькасці беларускіх калектываў, якія дзейнічаюць у Бельску-Падляшскім і выступаюць перш за ўсё з беларускімі песнямі, няма ў ніводным іншым нашым горадзе. Штуршок для стварэння і дзейнасці беларускіх дзіцячых і маладзёжных калектываў далі, між іншым, беларускія калектывы БДК — «Васілёчкі» і «Маланка». «Бельскія мастацкія кліматы» адкрыў Хор песні і танца «Васілёчкі» — музычны калектыў, які найдаўжэй дзейнічае пры БДК. У «Маланцы» і «Курантах» спяваюць і іграюць самадзейнікі, якія раней належалі да «Васілёчкаў», хаця б іх лідары Сяргей Лукашук і Павел Лемеш.

— У час сённяшняга мерапрыемства ўсе калектывы прэзентуюць свае магчымасці, а пасля ўсе мы пойдзем на супольны баль, дзе, апрача гасцявання і танцаў, будуць таксама конкурсы, — заявіў Артур Бялецкі з «Васілёчкаў».

У наступным годзе міне 50 гадоў дзейнасці славутых «Васілёчкаў», якія паўстагоддзя прэзентуюць у Польшчы і па-за межамі нашай краіны беларускія песні і прапагандуюць нашую культуру. Праз «Васілёчкі» прайшлі сотні людзей, хор даў каля тысячы канцэртаў. Хор 2 лютага шыкарна запрэзентаваўся на сцэне БДК і паказаў высокі мастацкі ўзровень спеву. Пры нагодзе прыгадаем, што ў першай палове дзейнасці «Васілёчкаў» іх дырыжорамі былі вядомыя ў нашым асяроддзі асобы — Аляксандр Лукашук, Сцяпан Копа, Юрый Шурбак, Міхал Артысевіч і Сяргей Лукашук, якія далі салідныя падваліны для далейшай дзейнасці хору.

— У час адной з рэпетыцый рашыліся мы назваць хор «Васілёчкамі» — ад загалоўка песні «Васілёчкі» (валошкі, хабры) і доўга супольна працавалі пры прамаванні нашага названня, — расказваў Сяргей Лукашук, які найдаўжэй быў дырыжорам «Васілёчкаў», бо з 1970 ажно да 1990 года, а раней тры гады састаўляў акампанемент для калектыву. Тады ў хоры было нават больш за сорак асоб, а ў іх ліку былі і музыканты.

— Чарговымі дырыжорамі «Васілёчкаў» былі Аліна Негярэвіч, Уладзімір Сахарчук, Мікола Мяжэнны (цяпер састаўляе акампанемент на акардэоне), а зараз хорам кіруе Мікола Фадзін. Хор «Васілёчкі» спявае ў асноўным песні на беларускай літаратурнай мове. У яго рэпертуары ёсць апрацаваныя народныя песні і творы сучасных кампазітараў. Прэзентаваў ён таксама нашыя абрады — «Хрысціны», «Перапяліцу», «Сваты», «Прыданне», ці «Перажовіны» і выступаў з калядкамі, — сказала арганізацыйны кіраўнік калектыву Ніна Бялецкая.

«Маланка» — самы плённы наш народны калектыў, калі браць пад увагу колькасць выдадзеных кампакт-дыскаў (3 штукі), а раней аўдыёкасет (6 штук), на якіх запісаных каля 150 песень. Апрацоўваў іх мастацкі кіраўнік калектыву Сяргей Лукашук.

— У «Маланцы» жывем мы як у адной сям'і і нават сябруем між сабой, па-за калектывам. Сёння ў нас добрая нагода паспяваць, а пасля пагуляць у большым крузе бельскіх калектываў, — расказваў Марк Хмур, настаўнік бельскай «тройкі».

«Маланка» многа разоў выступала ў замежжы — у Беларусі (найбольш разоў), Расіі, Францыі і Германіі.

— «Маланка» ўзнікла на аснове квартэта і дуэта з «Васілёчкаў», іншых спевакоў з гэтага хору, а таксама і з-па-за яго. Я адышоў з «Васілёчкаў» у 1990 годзе, а назва навастворанага калектыву паявілася на гала-канцэрце Фестывалю «Беларуская песня», калі Мікола Бушко заказваў выступ новага гурту. Спытаў ён нашых дзяўчат, якія песні яны спяваюць і пачуў у адказ, што выконваюць яны дынамічныя творы, як маланка. І заказаў ён выступ нашых дзяўчат як бельскі калектыў «Маланка» і так ужо засталося, — успамінаў Сяргей Лукашук.

Гэты калектыў у асноўным прэзентуецца з фальклорнымі апрацаванымі песнямі і з аўтарскімі творамі, што выконваюцца перш за ўсё ў народнай манеры.

Адносна малады гурт, што дзейнічае пры БДК, гэта Мужчынскі калектыў «Куранты». Ініцыятарам яго заснавання быў Павел Лемеш, зараз арганізацыйны кіраўнік гурту. Сёлета гурт будзе святкаваць юбілей 10-годдзя сваёй дзейнасці.

— На нашыя поспехі моцна папрацавала наш дырыжор Аліна Негярэвіч, якая не толькі кіруе нашым спевам, але і кампануе творы, з якімі мы выступаем. Напрыклад, напісала яна музыку на вершы Віктара Шведа і з гэтымі творамі мы выступаем. Беларускія песні састаўляюць больш за палову нашага рэпертуару, а астатнія творы гэта польскія, расійскія і ўкраінскія песні і таму мы лічым сябе славянскім калектывам, — сказаў Павел Лемеш з «Курантаў».

ISSN 0546-1960